# Голас Радзімы

№ 50 (1984)
11 снежня 1986 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Наперадзе ў гэтых малых з мінскага дзіцячага сада «Светлячок» усё жыццё. У 2000-м годзе ім будзе толькі па дваццаць. Зараз цяжка меркаваць, якімі вырастуць яны, кім стануць, якія праблемы давядзецца вырашаць ім у XXI стагоддзі. Многае тут залежыць ад нас, дарослых, ад таго, якую спадчыну мы пакінем нашым дзецям і перш за ўсё, ці здолеем ачысціць планету ад ядзернай зброі. Падзеі сёлетняга года паказалі, што гэта рэальна. Савецкі Саюз прапанаваў ясную праграму ядзернага раззбраення. Міжнародны год міру можа стаць пачаткам шляху да стагоддзя міру.

Фота А. ТАЛОЧКІ.

## СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

Актуальныя праблемы развіцця эканомікі, удасканаленне сацыяльнай сферы, уздыму дабрабыту людзей былі ў цэнтры ўвагі дэпутатаў пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, якая адбылася 6 снежня ў Мінску.

Дэпутаты абмеркавалі Дзяржаўны план эканамічнага і сацыяльнага развіцця БССР на 1987 год і ход выканання плана ў 1986 годзе, Дзяржаўны бюджэт рэспублікі на 1987 год і выкананне бюджэту за 1985 год.

Вярхоўнаму Савету БССР быў прадстаўлены даклад Савета Міністраў рэспублікі аб праводзімай рабоце па рэалізацыі Рэспубліканскай комплекснай праграмы развіцця вытворчасці тавараў народнага спажывання і сферы паслуг на 1986—2000 гады.

Па ўсіх абмеркаваных пытаннях дэпутаты прынялі адпаведныя законы і пастановы.

Прынята таксама пастанова аб вызваленні дэпутата Л. Чагінай ад абавязкаў сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у сувязі з выхадам на пенсію. Сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі выбрана дэпутат Л. Сыраегіна.

НА СЕСІІ ААН

## ВЫСТУПЛЕННІ ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСІ

На 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН разглежаны шырокі аспект праблем, звязаных з міжнародным эканамічным становішчам і дзейнасцю ААН ў гэтай сферы. Прадстаўнікі Беларускай ССР у Другім камітэце, дзе абмяркоўваліся гэтыя пытанні, А. Пашкевіч і Г. Ягораў, удзялілі галоўную ўвагу пытанню аб неабходнасці стварэння сістэмы міжнароднай эканамічнай бяспекі як важнай састаўной часткі прапановы сацыялістычных краін аб распрацоўцы ў рамках ААН усеабдымнай сістэмы міжнароднага міру і бяспекі.

Прадстаўнік БССР А. Зарамбоўскі, выступаючы ў Спецыяльным палітычным камітэце сесіі, асудзіў амерыканскія планы мілітарызацыі космасу. Недапушчэнне гонкі ўзбраенняў у касмічнай прасторы і наладжванне там мірнага супрацоўніцтва павінны ўвайсці ў фундамент усеабдымнай сістэмы міжнароднага міру і бяспекі, падкрэсліў ён.

Вялікая ўвага ў ходзе сесіі ўдзелена фінансаваму становішчу ААН, якое пагоршылася ў апошні час у выніку аднабаковага рашэння ЗША, прынятага ў парушэнне Статута ААН, рэзка скарацiць свой узнос у яе бюджэт.

Цяпер прымаюцца меры для таго, каб істотна павысіць эфектыўнасць адміністрацыйнага і фінансавага функцыянавання ААН, спрасціць структуру яе сакратарыята, палепшыць каардынацыю дзейнасці яго асобных падраздзяленняў.

У ходзе абмеркавання гэтых пытанняў у Пятым камітэце прадстаўнік Беларускай ССР П. Бяляеў указаў на недапушчальнасць фактаў адкрытага ігнаравання канкрэтных рашэнняў Генеральнай Асамблеі ў радзе падраздзяленняў сакратарыята ААН. Пры гэтым ён падкрэсліў, што павышэнне эфектыўнасці сакратарыята ААН неабходна шукаць не на шляху стварэння новых бюракратычных фарміраванняў, а за кошт усямернага ўмацавання выканаўчай дысцыпліны на ўсіх узроўнях. Палеміку ў Пятым камітэце выклікалі пытанні, звязаныя з размеркаваннем фінансавых расходаў ААН паміж дзяржавамі — членамі. Выступаючы ў дыскусіі па адпаведнаму пункту парадку дня камітэта, прадстаўнік БССР У. Счасны падтрымаў пазіцыю большасці краін, у адпаведнасці з якой у аснове вызначэння памераў узносаў павінен па-ранейшаму ляжаць прынцып плацежаздольнасці дзяржаў — членаў ААН.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ З ФІНЛЯНДЫІ

У Мінску пабывала дэлегацыя Партыі цэнтра Фінляндыі, якая знаходзілася ў Савецкім Саюзе па запрашэнню ЦК КПСС. Дэлегацыю ўзначальваў старшыня Партыі цэнтра, міністр замежных спраў Фінляндыі П. Вяюрунен. У саставе дэлегацыі члены праўлення Партыі цэнтра, яе вядомыя дзеячы, дэпутаты парламента Фінляндыі.

Члены дэлегацыі мелі гутарку ў ЦК Кампартыі Беларусі. П. Вяюрунен падзякаваў за цёплую сустрэчу і атрыманую магчымасць наведаць Беларусь, даў высокую ацэнку поспехам, якіх дабілася рэспубліка, пажадаў яе працоўным новых дасягненняў. Ён расказаў аб дзейнасці Партыі цэнтра, яе ролі ў развіцці супрацоўніцтва Фінляндыі і Савецкага Саюза.

Члены дэлегацыі сустрэліся таксама са Старшынёй Савета Міністраў БССР М. Кавалёвым. Адбыўся абмен думкамі аб удзеле Савецкай Беларусі ва ўсебаковым, узаемавыгадным супрацоўніцтве СССР і Фінляндыі.

Фінскія госці пазнаёміліся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы, навабудоўлямі Мінска, пабывалі ў калгасе імя Гастэлы Мінскага раёна.

НОВЫЯ СТАНКІ



Серыйны [illegible]пуск станкоў тыпу «апрацоўчы цэнтр» з лічбавым праграмным кіраваннем асвоіў калектыў Маладзечанскага станкабудаўнічага завода. Яны аснашчаны наборам інструментаў 16 назваў, што дазваляе вырабляць любую складаную [illegible]таль. Сумяшчэнне аперацый паві[illegible] прадукцыйнасць працы станочнікаў у тры разы, паляпшае якасць вырабаў.
Новыя станкі кампактныя і зручныя ў абслугоўванні. А гэта мае важнае значэнне ў выпадках «прывязкі» іх да канвеераў, якія дзейнічаюць на прадпрыемствах аўтамабільнай прамысловасці і сельскагаспадарчага машынабудавання.
Расце папулярнасць прадукцыі маладзечанскіх станкабудаўнікоў на знешнім рынку. Цяпер яе купляюць Югаславія, Румынія, Венгрыя, Куба і шэраг іншых краін.
НА ЗДЫМКУ: рыхтуецца да адпраўкі партыя вертыкальна - свідравальных станкоў.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## ТРЫВАЛЫЯ КАНТАКТЫ

На справаздачна-выбарнай канферэнцыі Беларускага аддзялення Таварыства савецка-в'етнамскай дружбы, якая адбылася ў Мінску, абмеркаваны вынікі яго работы ў 1982—1986 гадах і задачы на наступны перыяд.

У выступленнях на канферэнцыі падкрэслівалася, што сувязі беларускай і в'етнамскай грамадскасці ўмацоўваюцца з кожным годам, набываюць новыя формы. Наладжаны трывалыя кантакты паміж прамысловымі прадпрыемствамі і сельскімі кааператывамі, інстытутамі і сярэднімі школамі, культурнымі ўстановамі.

Удзельнікі канферэнцыі выбралі новае праўленне аддзялення. Яго старшынёй зноў стаў Герой Сацыялістычнай Працы А. Андрэеў.

СЯБРУЮЦЬ ГАРАДЫ

## ДНІ МІНСКА Ў ДУШАНБЕ

Дні горада-героя Мінска адбыліся ў Душанбе — сталіцы Таджыкскай ССР. Яны прайшлі ў рамках падрыхтоўкі да святкавання 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

У ходзе Дзён умацаваліся і пашырыліся дзелавыя кантакты беларускіх і таджыкскіх машынабудаўнікоў, вучоных акадэмічных інстытутаў, творчых саюзаў, якія заключылі дагаворы аб супрацоўніцтве. У Таджыкскім акадэмічным тэатры оперы і балета адбыўся заключны вечар. З вялікім канцэртам тут выступілі майстры мастацтваў Беларускай і Таджыкскай ССР.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ПА ПРАГРАМЕ «ІНТЭРЭЛЕКТРА»

Электрарухавікі новай уніфікаванай серыі ўжо сёлета, а не ў наступным годзе, як планавалася, атрымаюць машынабудаўнікі краіны. Выпуск іх датэрмінова асвоены на магілёўскім заводзе «Электрарухавік», дзе з канвеераў сышлі першыя сотні матораў. Навінка распрацавана спецыялістамі краін — членаў Савета Эканамічнай Узаемадапамогі, якія ўваходзяць у міжнародную арганізацыю па супрацоўніцтву ў галіне электратэхнічнай прамысловасці — «Інтэрэлектра».

Новы асінхронны рухавік мае высокія энергетычныя параметры, а габарыты і вага яго сталі меншымі — у выніку на вырабе кожнага эканоміцца да дзесяці працэнтаў розных металаў. Зніжаны ўзровень шуму пры рабоце, павышана надзейнасць, палепшаны іншыя параметры. Гэтыя якасці ставяць новы матор на ўзровень сусветнага электрамашынабудавання. Рухавікі знойдуць шырокае прымяненне ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у розных кліматычных зонах.

ВОЛЬНЫ ЧАС

## КЛУБ ДЛЯ МОЛАДЗІ

«Час» — так называецца спартыўна-тэхнічны клуб, які створаны для моладзі ў горадзе Гомелі. Школьнікі, студэнты і рабочыя займаюцца тут конным спортам, акрабатыкай, рознымі відамі барацьбы, [illegible]та- і аўтаспортам. Адна з задач [illegible]ага клуба — падрыхтоўка рэзерву для трукавай работы ў кіно. Таму вучэбная праграма прадугледжвае таксама наведванне здымачных пляцовак, сустрэчы з творчымі работнікамі кінематографа.

Клуб «Час» дзейнічае нядаўна, але паспеў ужо набыць [illegible]улярнасць сярод моладзі горада.

ТЭХНІКА ДЛЯ ВЁСКІ

## І БАЛОТЫ НЕ СТРАШНЫЯ

Добры вынік дало супрацоўніцтва канструктараў Мінскага трактарнага завода з механізатарамі калгаса «8 Сакавіка» Лагойскага раёна. Яны стварылі спецыяльны балотаходны агрэгат высокай праходнасці для ўборкі траў на поймённых лугах. Гэтыя работы, як вядома, звязаны з вялікімі цяжкасцямі з-за недастунпасці і непраходнасці балоцістых мясцін.

Новая машына з'яўляецца мадыфікацыяй рысаводчага трактара МТЗ-82Р. Яна мае два элементы навізны: здвоеныя шырокапрофільныя шыны і прычапную касілку, прыстасаваную да новых умоў. Затраты на пераабсталяванне трактара і касілкі акупляюцца на працягу аднаго ўборачнага сезона. Да будучага сезона вырашана вырабіць 25 такіх агрэгатаў. Улічваючы, што яны патрэбны і для іншых рэгіёнаў краіны, Міністэрства трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання СССР уключыла выпуск навінкі ў галіновы план.

АГРАЦЭХ ФАБРЫКІ



Многія прамысловыя прадпрыемствы нашай рэспублікі маюць падсобную гаспадарку. Часцей за ўсё гэта невялікія жывёлагадоўчыя ці малочнатаварныя фермы, цяпліцы. На Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы ў дадатак да гэтага збіраюцца стварыць яшчэ і пчаліную пасеку. Мяса, агуркі, памідоры і іншая гароднiна круглы год паступае з аграцэха фабрыкі ў рабочыя сталовыя, дзіцячыя сады і прафілакторый прадпрыемства.
НА ЗДЫМКУ: у цяпліцы фабрыкі.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ



Разнастайныя прыборы для сельскай гаспадаркі распрацоўвае Беларускі філіял Усесаюзнага навукова-даследчага праектна-канструктарскага іжынернага цэнтра Дзяржаграпрома СССР. Аб'ектыўна ацаніць стан пасеваў, ступень паражэння ўгоддзяў пустазеллем, неабходнасць унясення ў глебу тых ці іншых угнаенняў дапаможа аграномам, напрыклад, сістэма дыстанцыйнага кантролю, створаная супрацоўнікамі цэнтра сумесна з вучонымі Навукова-даследчага інстытута прыкладных праблем Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Па заслугах ацэняць работнікі станцый хімізацыі сельскай гаспадаркі (а іх у краіне 250), сістэму аўтаматычнага збору і апрацоўкі масавых аналізаў глебы. Яна дазволіць значна паскорыць сістэматызацыю, абагульненне і разлікі доз унясення ўгнаенняў.
НА ЗДЫМКУ: вядучы канструктар цэнтра Аляксандр ШАМЯЦЬКО.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БРЭСТ. Новы аэравакзальны комплекс прыняў першых пасажыраў. Яго будынак, спраектаваны мясцовымі архітэктарамі і інжынерамі, па форме нагадвае дэльтаплан. Аўтаматызавана падача грузаў і ручной паклажы, створана электронная сістэма інфармацыі. Комплекс забяспечыць зладжаную работу служб аэрапорта, максімум зручнасцей для пасажыраў.

ВІЦЕБСК. Пры Запольскай сярэдняй школе адкрылася музычная школа. У ёй па класах баяна, цымбал і фартэпіяна будуць вучыцца дзеці хлебаробаў калгасаў «Расія» і «Чырвоны партызан». Галоўны клопат аб школе ўзялі на сябе гэтыя гаспадаркі. Яны памаглі абсталяваць класы, купілі музычныя інструменты.

МАСТЫ. Ніколі яшчэ на вуліцах і плошчах Мастоў не збіралася столькі людзей, як у час свята, прысвечанага 500-годдзю горада. Яны былі сведкамі тэатралізаванага прадстаўлення, якое аднавіла яркія старонкі гісторыі. Аблічча старажытнага горада ўпрыгожылі сучасныя жылыя мікрараёны, буйны спартыўны комплекс, кінатэатр, іншыя навабудоўлі.

ПРАБЛЕМЫ ЗЕРНЕВАЙ ГАСПАДАРКІ КРАІНЫ

# БЕЗ СКІДКІ НА НАДВОР'Е

У ЛЮБОЙ краіне, якой бы яна ні была багатай, праца селяніна цяжкая. Так было і ёсць, нягледзячы на механізацыю вытворчасці. Чалавек здабывае хлеб у полі чала свайго — гэта ісціна наўрад ці калі-небудзь устарэе.

І ўсё-такі ўмовы, у якіх працуе наш земляроб, больш цяжкія, чым у якой-небудзь з краін Заходняй Еўропы або ў ЗША.

Возьмем Швецыю. Калі паглядзець на карту — далёка поўнач. На шыраце важнейшага сельскагаспадарчага раёна гэтай краіны — Сконе — размешчана паўночная частка Расійскага Нечарназем'я, а далей на ўсход — цюменскія балоты, Сярэдне-Сібірскае пласкагор'е, Якуція і Магаданская вобласць — вечная мерзлата. Але ці азначае гэта, што ў Швецыі, на поўначы Нечарназемнай зоны РСФСР або ў Якуціі земляробам цяжка працуецца ў аднолькавай ступені? Ды і ці можна супастаўляць умовы работы людзей на зямлі, водзячы пальцам па глобусу?

У Сконе снежнае покрыва трымаецца ўсяго паўтара месяца, увільгатненне ўгоддзяў ідэальнае — 600—700 міліметраў ападкаў у год, сярэдняя тэмпература студзеня — мінус 1—2 градусы, а сярэдняя тэмпература ліпеня — каля 16—17 градусаў. Аб такіх умовах земляробы важнейшых нашых жытніц, якія размешчаны значна больш на поўдзень ад Швецыі, могуць толькі марыць.

А цяпер уявім сабе сітуацыю на асвоенай цаліне Сібіры або Паўночнага Казахстана, дзе зараз вырошчваецца высакаякаснае харчовае зерне — яравыя моцныя і цвёрдыя пшаніцы. Першыя асенція замаразкі на глебе пачынаюцца ў жніўні. Першы снег выпадае ў верасні. У снежні-студзені — маразы да 50 градусаў з моцным ветрам. Таянне снежнага покрыва — у канцы красавіка. Позневясновыя замаразкі — да пачатку чэрвеня. Гарачае і сухое лета. У сезон уборкі — ліўні, часам — са снегам. Вядома, год на год не прыходзіцца, іншы раз надвор'е песціць селяніна цёплай, снежнай, бязветранай зімой або летнімі дажджамі, але гэта, хутчэй за ўсё, выключэнне з правіла. Па ўяўленнях амерыканскіх, французскіх, шведскіх фермераў, працаваць у Сібіры простатакі немагчыма.

Успамінаецца «вялікая засуха» 1976 года ў Заходняй Еўропе. Загалоўкі газет: «Кантынент падсмажваецца зажыва!», «Кліматычная катастрофа стагоддзя» і г.д. Я захоўваю выразку са «Шпігеля»: «За шэсць месяцаў у раёне Франкфурта-на- Майне выпала ўсяго 110 міліметраў ападкаў...» Ніхто не спрачаецца: 110 міліметраў — мала, земляробу не пашанцавала. Але гадам раней у зерневых раёнах Паволжа за восем месяцаў выпала... 33 міліметры. Між тым з гэтай прычыны нашы газеты не панікавалі, таму што, на жаль, засуха здараецца ў гэтых краях мінімум раз-два за пяцігодку, і сяляне прывыклі жыць і працаваць пад дамоклавым мячом стыхійнага бедства.

З бельгійскім калегам, журналістам-аграрнікам, мы спрабавалі пералічыць сабекошт мясной і малочнай жывёлагадоўлі ў сваіх краінах. Высветлілася, што ў Бельгіі на сабекошце мясамалочных прадуктаў не адбіваюцца так значна амартызацыйныя адлічэнні на жывёлагадоўчыя памяшканні: у іх можна абысціся лёгкім дашчатым павільёнам. А ў нас, улічваючы «рускую зіму», трэба будаваць капітальныя, уцепленыя, а таму і дарагія кароўнікі. Ды і якую б іншую галіну сельскай гаспадаркі мы ні ўзялі, не ўлічваць своеасаблівы «зімовы падатак» ніяк нельга.

Прыкладаў такога роду — мноства. Падвядзём вынік. Звыш 73 працэнтаў тэрыторыі сельскагаспадарчых угоддзяў у нас адчувае недахоп цяпла і вільгаці, каля 67 працэнтаў ворнай зямлі размешчана на глебах, якія маюць патрэбу ў спецыяльных і часта дарагіх мерапрыемствах па падтрыманню ўрадлівасці. У цэлым біякліматычны патэнцыял земляробскай зоны нашай краіны (колькасць цяпла ў гадавой суме эфектыўных плюсавых тэмператур і ападкаў у міліметрах за год) у 2,4 раза ніжэй, чым у ЗША, у 2,2 раза ніжэй, чым у Францыі, у паўтара — чым у Англіі і Даніі. Усё гэта агульнапрызнана.



Неспрыяльныя прыродна-кліматычныя ўмовы выклікаюць значныя хістанні ва ўраджайнасці і адпаведна ў валавых зборах сельскагаспадарчых культур, што нельга не ўлічваць пры супастаўленні вынікаў гаспадарання ў нас у краіне і на Захадзе.

Прынята лічыць, што ЗША абганяюць Савецкі Саюз па ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур. Паспрабуем разабрацца — ці правільна гэта?

У ліпені 1983 года амерыканскі друк выказваў надзею (і надзея амаль збылася), што ЗША атрымаюць «рэкордны ўраджай пшаніцы: 40 бушаляў з акра» (бушаль — 27,2 кілаграма, акр — 0,4 гектара). Перавядзём у нашы «цэнтнеры з гектара»: атрымліваецца 27,2. Калі ж узяць нашу краіну, дык самы вялікі ўраджай пшаніцы, які мы сабралі ў 1978 годзе, склаў 29,8 цэнтнера з гектара.

Звярніце ўвагу: у прыведзеным супастаўленні размова ідзе толькі аб азімай пшаніцы. Між тым у нас на трох пятых пасяўных плошчаў, выдзеленых пад пшаніцу, вырошчваюцца яравыя пшаніцы, ураджайнасць якіх удвая ніжэй. Наш земляроб і рады быў бы аддаць перавагу азімай пшаніцы, як гэта робіць амерыканскі фермер, але прыродныя ўмовы не дазваляюць яму зрабіць гэта: зіма больш суровая! Калі да вясны 10 працэнтаў азімых плошчаў вымерзлі (іх даводзіцца перасяваць нанава яравымі, зноў затрачваючы працу, насенне, угнаенні, гаручае і г.д., ведаючы пры гэтым напэўна, што ўраджай усё роўна зменшыцца) — гэта лічыцца амаль нормай. Але здараецца, што вымярзае і да трэці азімага кліна.

Таму пашыраць плошчы азімых пасеваў — справа рызыкоўная.

Ва ўсходніх жытніцах СССР сеяць азімыя практычна немагчыма. Гэта так званыя «яравасеючыя» раёны. Яны, на жаль, ніколі не змогуць параўнацца па ўраджайнасці з «азімасеючымі». Ды і ці можна параўноўваць? Скажам нават так: ці трэба параўноўваць? На Кубані, напрыклад, ураджайнасць пшаніцы на ўзроўні 20 цэнтнераў з гектара расцэньваюць ледзь не як катастрофу, а на сібірскай і казахстанскай цаліне такі вынік лічыцца надзвычайнай удачай: сабекошт цаліннага збожжа значна ніжэй, зерневая вытворчасць аказваецца рэнтабельнай пры ўраджайнасці 8—10 цэнтнераў з гектара, а пры 18—20 цэнтнерах з гектара дае значны прыбытак (па Кубані — страту).

Прадоўжым супастаўленне з ЗША. У нас у краіне абмежаваны арэал вырошчвання кукурузы на зерне, якая складае аснову фуражнага фонду ЗША. Ураджайнасць кукурузы ў нас параўнаўча невялікая (32 цэнтнеры з гектара ў сярэдні па пагодных умовах год), але справа нават не ў гэтым: пасевы кукурузы на зерне складаюць толькі тры працэнты зерневага кліна краіны. У валавым зборы збожжа — 205 мільёнаў тон у сярэднім за 1976—1980 гады — на долю кукурузы даводзілася ўсяго 9,5 мільёна тон. І хоць мы зараз ставім задачу паднясць збор да 22 мільёнаў тон да 1990 года (за кошт стварэння зон гарантаванай вытворчасці кукурузнага зерня на арашаемых масівах у Сярэдняй Азіі, на поўдні Украіны і Казахстана, на Паўночным Каўказе і ў Паволжы, што будзе каштаваць вялікіх затрат), яе ўдзельная вага ў зерневым балансе ўсё роўна не будзе вялікай. Тое ж самае з соей. І нікуды не дзенешся: ігнараваць прыроду нельга.

Значна большыя плошчы займае ў нас жыта — прыкладна 7 мільёнаў гектараў. Яно ўстойлівае да холаду, да засухі, да хвароб, да палягання, непатрабавальнае і надзейнае — сапраўды вялікі і бясцэнны злак! Але затое пры ўсіх вартасцях жыта яго ўраджайнасць усяго 14 цэнтнераў з гектара ў сярэднім па краіне.

У агульным выніку ўраджайнасць зерневых культур у нашай краіне сапраўды невялікая: у 1976—1980 гадах яна склала ў сярэднім 16 цэнтнераў з гектара, а да 1990 года плануецца паднясць яе да 21 цэнтнера з гектара.

Гэты паказчык і на самай справе выглядае горш, чым у ЗША або Заходняй Еўропе. Але ўлічым, што размова ідзе, як мы ўжо пераканаліся, фактычна аб розных культурах. А розныя культуры нельга параўноўваць — бо не параўноўваюць жа ўраджайнасць бананаў і буракоў?!

Але калі выбарачна ўзяць супадаючыя культуры (скажам, тую ж азімую пшаніцу), вырошчваемыя ў аналагічных умовах (напрыклад, амерыканскі штат Айова і Кубань), дык савецкі селянін наўрад ці ўступіць свайму амерыканскаму сабрату па ніве.

Зрэшты, для нашай краіны важней іншае: не «даганяць і пераганяць» каго б там ні было, а разабрацца і ўзважыць — ці залежыць пасляховае выкананне пяцігадовага плана на 1986—1990 гады ад пагодных умоў.

Адкажам на такое пытанне прама і недвухсэнсава: вядома, залежыць у вялікай ступені. Спашлюся ў дадзеным выпадку на думку вельмі аўтарытэтнага чалавека. Вялікі земляроб нашага часу, сусветна вядомы стваральнік сістэмы глебаахоўнага земляробства Цярэнцій Мальцаў, які ўсё жыццё працуе паляводам у адным і тым жа калгасе ў Заураллі і адзначыў у лістападзе мінулага года — у добрым здароўі — сваё 90-годдзе, заўважыў адночы: «Часам чуеш: вырасцім вялікі ўраджай незалежна ад пагодных умоў. Па-мойму, такі заклік здольны толькі збіць з панталыку».

Аб незалежнасці ад пагодных умоў у нас не гавораць. Гэта [illegible]о б утопіяй. У той жа час [illegible]ны развіцця сельскай гаспадаркі пабудаваны на рэальных разліках — з магчымымі варыянтамі. Менавіта аб гэтым гаварыў М. С. Гарбачоў на адной з нарад гаспадарнікаў і арганізатара[illegible] сельскагаспадарчай вытвор[illegible]ці: «Трэба дабіцца, каб у любы неспрыяльны год краіна атрымлівала не менш за 200 мільёнаў тон збожжа, а пры нармальных умовах — 250 і больш мільёнаў тон. Гэта, я б сказаў, стратэгічная задача нашага земляробства на бліжэйшыя гады». Прыкладна такія арыенціры і закладзены ў бягучы пяцігадовы план.

Засухі на палях у нас часта здараліся ў мінулым і нельга не рыхтавацца да іх у будучыні. Але зараз атрымаў перавагу такі пункт гледжання: засуха, недахоп вільгаці — не нейкае экстраардынарнае бедства, а нармальныя ўмовы для работы, бо міжземнаморскай раскошы ў нас усё роўна не будзе. Такая рэальная рэчаіснасць, і ніякіх скідак на надвор'е рабіць не трэба. Так, залежнасць земляробства ад кліматычных капрызаў, на жаль, вялікая. Але не выпадкова той жа Мальцаў гаворыць: работа селяніна нагадвае шахматную партыю, у якой надвор'е гуляе белымі, г. зн. мае перавагу першага ходу, але вельмі многае залежыць і ад дакладнасці, своечасовасці адказнага ходу земляроба.

Рост інвестыцый у аграпрамысловы комплекс СССР, мадэрнізацыя матэрыяльна-тэхнічнай базы калгасаў і саўгасаў, павышэнне культуры земляробства, эканамічная рэформа, што адкрывае шлях да самастойнасці і ініцыятывы сельскіх працаўнікоў ва ўмовах паўсямеснага ўкаранення гаспадарчага разліку, самаакупнасці і самафінансавання, — усё гэта, разам узятае, дазваляе з дастатковай ступенню ўпэўненасці разлічваць, што «ход у адказ» савецкага земляроба ў 1986—1990 гадах будзе больш дакладным, чым калі-небудзь у мінулым.

**Леў ВАСКРАСЕНСКІ.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

## СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ

Шмат давялося мне ў жыцці павандраваць па неабсяжных прасторах нашай краіны, бо з такой ужо працай, якая патрабуе частых пераездаў на новыя месцы жыхарства, звязаў я свой лёс. Процьму сустрэч з землякамі-беларусамі, якія адбыліся за гэты час, трымаю ў сваёй памяці. Здаецца, дзе толькі і з кім толькі не зводзіў мяне лёс! І ў Львове, і ў ваколіцах Ленінграда, і ў Ташкенце, і ў Ашхабадзе, і ў прасторах туркменскай пустыні...

Розныя былі гэтыя сустрэчы, і найбольш, канешне, зараз узгадваюцца тыя, што адбываліся з людзьмі, якія і пасля доўгай разлукі з роднай старонкай не гублялі з ёй сувязі або моцна трымалі ў сабе і пры сабе памяць аб ёй.

З сям'ёй Міхася Ткачова я пазнаёміўся ў горадзе Ашхабадзе, сталіцы Туркменіі. Туркменія —адна з пятнаццаці савецкіх рэспублік, размешчаная на поўдні СССР, у рэгіёне, які вядомы пад назвай Сярэдняя Азія. Сённяшні яе эканамічны і сацыяльны воблік складаецца з рыс, характэрных для ўсёй нашай краіны. Ёсць чаму тут здзіўляцца, бо толькі дзякуючы Савецкай уладзе гэта рэспубліка зрабіла неверагодны ў гісторыі крок — практычна з феадалізму ў сацыялізм, мінуючы капіталістычны этап развіцця.

Як выявілася потым, Міхась — родны брат Васіля Ткачова, маладога празаіка і драматурга з Гомеля. Так ланцуг выпадковых сустрэч далучыў мяне да цяперашняга жыцця вяскоўцаў і гараджан Гомельшчыны, герояў кнігі В. Ткачова «Дзень у горадзе».

Дарэчы, творчыя асобы сустракаюцца і сярод перасяленцаў. Напрыклад, тут жа, у Туркменіі, з поспехам працуюць ураджэнцы Беларусі радыёжурналіст Уладзімір Грачоў, вядучы адной з самых папулярных перадач рэспубліканскага радыё, і рэдактар абласной газеты «Ташаузская праўда» Міхась Карпенка, аўтар дзевяці кніг паэзіі, выдадзеных у Ашхабадзе.

А гэтая сустрэча адбылася ўжо ў Ташкенце, сталіцы другой сярэднеазіяцкай савецкай рэспублікі, — Узбекскай. З Фёдарам і Галінай Смеяновічамі, якія нарадзіліся на Міншчыне, у Пухавіцкім раёне. Фёдар Іванавіч — афіцэр Савецкай Арміі. Галіна Іосіфаўна працуе тут настаўніцай пачатковых класаў.

У час Вялікай Айчыннай вайны Фёдар Смеяновіч быў зусім малечай. І ўсе падзеі, што адбываліся на Пухаўшчыне, амаль засталіся па-за яго памяццю. Ён усвядоміў іх і перажыў пазней — у пасляваенныя гады. Дзядзька Фёдара, таксама Фёдар Смеяновіч, у званні палкоўніка ў Вялікую Айчынную камандаваў дэсантнай брыгадай. Па-геройску загінуў пры фарсіраванні Дняпра.

Вось чаму выбар прафесіі кадравага ваеннаслужачага Савецкай Арміі для майго ташкенцкага знаёмага быў зусім не выпадковым.

Я мог бы яшчэ прывесці дзесяткі іншых прыкладаў сустрэч з землякамі, якія жывуць і працуюць па-за межамі роднай Бацькаўшчыны. Сумуем, вядома, і мы па яе мілых краявідах, асабліва, калі зацягваецца чарговае спатканне з імі. Хаця сум гэты — не настальгічны. Не той, якім крываточаць душа і сэрца майго зарубежнага суайчынніка...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




1986 год Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый абвешчаны Міжнародным годам міру. Гэта не выпадкова. Бадай, ніколі яшчэ ў свеце не было так трывожна і небяспечна, як цяпер. Чалавецтва падышло да самага краю бездані, што завецца тэрмаядзернай вайной. Гэта добра разумеюць прагрэсіўныя сумленныя людзі планеты і не шкадуюць сіл, каб прадухіліць катастрофу, прыцягнуць яшчэ больш пільную ўвагу грамадскасці да праблемы захавання жыцця на зямлі.

Міжнароднаму году міру прысвечана кніжка Аліны Сямёнавай «Год барацьбы і надзей», якая толькі што выйшла ў «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы».

Газеты, радыё, тэлебачанне на Захадзе не даюць аб'ектыўнай, праўдзівай інфармацыі аб пазіцыі Савецкага Саюза, які імкнецца забяспечыць роўную бяспеку для ўсіх народаў на шляху скарачэння ўзбраенняў і раззбраення, аж да поўнай ліквідацыі ўсіх відаў зброі масавага знішчэння. Сілы рэакцыі бессаромна запалохваюць недасведчаных «савецкай ваеннай пагрозай». У кніжцы «Год барацьбы і надзей» расказваецца пра важнейшыя мірныя прапановы Савецкай дзяржавы, накіраваныя на ўмацаванне і захаванне міру на зямлі. 6 жніўня 1985 года Савецкі ўрад аб'явіў, што наша краіна ў аднабаковым парадку спыняе ядзерныя выпрабаванні да 31 снежня 1985 года. З усіх дзяржаў, якія валодаюць ядзерным патэнцыялам, СССР быў адзіным, хто практычнымі дзеяннямі адгукнуўся на заклік сусветнай грамадскасці аб спыненні ядзерных выпрабаванняў. Сёлета ў жніўні наша краіна чацвёрты раз у аднабаковым парадку прадоўжыла дзеянне свайго мараторыя на ядзерныя выбухі. Аднак рашучыя меры Савецкага ўрада не знаходзяць падтрымкі і разумення з боку адміністрацыі ЗША. Фактычна былі сарваны перагаворы на вышэйшым узроўні ў Рэйк'явіку. Літаральна ў бліжэйшыя гады СССР і ЗША, іх саюзнікі могуць апынуцца ў становішчы абсалютна бескантрольнай гонкі ўзбраенняў, стратэгічнага бязладдзя, што прывядзе свет да яшчэ большай няўпэўненасці ў заўтрашнім дні і ўсеагульнага страху.

Больш пятнаццаці гадоў аўтар гэтай кніжкі на грамадскіх пачатках працуе ў Беларускім камітэце абароны міру. За гэты час было многа сустрэч з барацьбітамі за мір, з турыстамі і грамадскімі дзеячамі, якія прыязджаюць да нас з-за мяжы, каб бліжэй пазнаёміцца з Савецкай краінай. Адкрыты абмен думкамі, працяглыя размовы, высвятленне пазіцый па найбольш актуальных праблемах нязменна пераконвалі гасцей у дружа[illegible]бнасці, міралюбівых імкне[illegible] савецкіх людзей.

Характарызуючы дзейнасць Беларускага камітэта абароны міру, аўтар расказвае, што ім арганізуецца мноства мерапрыемстваў, накіраваных на тое, к[illegible]абілізаваць грамадскас[illegible] аб'яднаць яе ў барацьбе супраць ваеннай пагрозы, за раззбраенне і мір. Гэта масавыя мітынгі і шэсці, кінафестывалі, вахты, рэйсы, урокі міру, вечары палітычнай песні, міжнародныя сустрэчы і дыскусіі.

У фінансавых адносінах камітэт абароны міру поўнасцю незалежны, яго дзейнасць фінансуецца са сродкаў фонду міру, які ўтвараецца выключна з добраахвотных грашовых узносаў і іншых падарункаў савецкіх і зарубежных грамадзян. У фондзе міру няма членства, абавязковых узносаў, няма запланаваных паступленняў, але яны растуць. Прычым, кожны раз рэзка павялічваюцца пры абвастрэнні міжнароднай абстаноўкі. Свае зберажэнні шлюць асобныя грамадзяне, творчыя работнікі пералічваюць на справу міру прэміі, узнагароджанні за вынаходкі, аўтарскія ганарары, зборы ад спектакляў, канцэртаў, лекцый, спартыўных выступленняў. Штогод папаўняюць буйнымі ўзносамі фонд міру дзеячы праваслаўнай царквы, а таксама служыцелі царквы каталіцкай, евангельскіх хрысціян-баптыстаў і іншых рэлігійных абшчын.

Трэба падкрэсліць яшчэ і такі момант: антываенны рух ніколі не атрымаў бы ў Савецкім Саюзе такога размаху, каб не падтрымка дзяржавы. Падтрымка гэта носіць не фінансавы, а палітычны характар. І ў гэтым сэнсе можна гаварыць аб адзінстве ідэалаў камунізму і міру. У заключэнне аўтар падкрэслівае, што сусветнае супольніцтва зрабіла ўжо многа карыснага для справы міру і міжнароднага супрацоўніцтва. Але яшчэ больш складаныя задачы наперадзе. Чалавецтва зможа ўздыхнуць з палёгкай толькі ў тым выпадку, калі ў XXI стагоддзе яно ўступіць без ядзернай зброі, скараціўшы да мінімуму ці знішчыўшы звычайную.

**Д. БАБАК.**

## ЧЫТАЧЫ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» АДКАЗВАЮЦЬ НА АНКЕТУ

# ЗАХАВАННЕ МІРУ—НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

Міжнародны год міру быў далёка не мірным на планеце. Затое колькі добрага, станоўчага зрабіў Савецкі Саюз для міру ў 1986 годзе — гэта гістарычны факт!

Аб тых кроках, якія робіць СССР у інтарэсах умацавання міру на планеце, вядома ў Бельгіі — краіне, дзе я жыву. Радыё, тэлебачанне, газеты вымушаны паведамляць аб гэтым, бо, як гавораць, «нельга закрыць рукой сонца». Выступленні М. С. Гарбачова іншы раз мы бачым непасрэдна з Масквы па бельгійскаму тэлебачанню з перакладам.

Бельгійскі народ адабрае мірную ініцыятыву СССР, а што тычыцца ўрада, то на словах ён за раззбраенне, супраць ядзернай вайны, верыць у правату СССР, а на справе залежыць ад адміністрацыі ЗША і, хоць не поўнасцю, але выконвае яе загады.

Я асабіста, мая сям'я і сябры па духу з жахам і пагардай ставімся да палітыкі ЗША і іншых дзяржаў Захаду, накіраванай на працяг гонкі ўзбраенняў і «зорных войнаў». Усё больш насельніцтва Бельгіі выступае за раззбраенне, мір, супрацоўніцтва. Сведчанне таму — масавыя дэманстрацыі, мітынгі. У іх прымае самы актыўны ўдзел уся мая сям'я.

Заява Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова глыбока ўсхвалявала і абрадавала мяне і маю сям'ю, блізкіх, таму што яна за мір і шчасце. Як можна не адабраць таго, чаго жадаеш і за што змагаешся ў імя жыцця на Зямлі! Заяву М. С. Гарбачова аб прадаўжэнні аднабаковага мараторыя на ядзерныя выбухі міралюбівае насельніцтва сустрэла з захапленнем. Але сілы рэакцыі стараюцца сказіць ісціну. Сцвярджаюць, што нібыта ЗША адстаюць у параўнанні з СССР па ядзернай зброі і працягваюць выбухі, каб дагнаць. Усё гэта, вядома, бязглуздзіца і пыл у вочы.

Ваенная перавага НАТО, на маю думку, ніяк не зможа ўмацаваць мір, а наадварот, можа навязаць вайну слабейшым дзяржавам. Гэта толькі прычына, каб павялічыць ваенны бюджэт за кошт рабочага класа. Толькі мірнае супрацоўніцтва, перагаворы, а не зброя могуць садзейнічаць умацаванню міру, што і прапаноўвае, за што і змагаецца Савецкі Саюз.

Наш горад Шарлеруа з'яўляецца бяз'ядзернай зонай, гэта значыць, што не толькі нельга размяшчаць ядзерную зброю, але нават і правозіць яе праз нашу мясцовасць. Так вырашыла адміністрацыя горада, бургамістр якога з'яўляецца членам праўлення бяз'ядзерных гарадоў.

Большасць насельніцтва нашага горада і Бельгіі далучаецца да міралюбівай палітыкі СССР, актыўна выступае супраць фашыстаў, мілітарыстаў, расістаў і вядзе пастаянную барацьбу за мір, раззбраенне, каб не даць распаліць пажар новай вайны. Мы праводзім мітынгі, інфармуем народ аб міралюбівай палітыцы СССР. Барацьба супраць ваеннай прапаганды, супраць ілжы і паклёпу ідзе вельмі актыўна. Бо за мір і шчасце трэба змагацца. Але не заўсёды гэта лёгка рабіць: не спяць і нашы ворагі. Нягледзячы на масавы пратэст народа, урад Бельгіі па загаду ЗША ўсё ж размясціў крылатыя ракеты ў горадзе Фларэне.

Міфу аб «савецкай ваеннай пагрозе» цяпер верыць толькі той, хто жадае распаліць нянавісць паміж народамі. Ёсць, вядома, цёмныя «непісьменныя», якія вераць толькі ў тое, што ім напяваюць, не стараючыся спасцігнуць ісціну.

Для нас, савецкіх грамадзян, хто жыве за мяжой, вялікае шчасце і гордасць быць часцінкай краіны, якая пастаянна так горача, так праўдзіва і бескарысліва змагаецца за мір, раззбраенне, супраць ядзернай вайны, за жыццё на зямлі.

Толькі дзякуючы ўраду СССР, мы пражылі 41 год без вайны, толькі дзякуючы міралюбівай палітыцы савецкага народа, урад ЗША стрымлівае сваю нахабнасць і ўмяшанне ў жыццё і палітыку іншых краін.

Мы, хто зведаў і перанёс усе жахі другой сусветнай вайны, не можам не адабраць, не вітаць Заявы Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова!

**Марыя ГАРОХ.**

Бельгія.

## Што? * Як? * Чаму?

**Бадай, адным з самых важных правоў савецкага чалавека, узаконеных канстытуцыяй, з'яўляецца права на адукацыю, адметную перш за ўсё сваёй бясплатнасцю. Адным са звенняў сістэмы савецкай адукацыі з'яўляецца**

# ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА

Беларускай вышэйшай школе сёння яшчэ рана святкаваць буйныя юбілейныя даты. Ва ўсякім разе ўзрост яе зусім юны ў параўнанні, напрыклад, з узростам англійскай, карані якой цягнуцца аж у XII стагоддзе.

Першая вышэйшая навучальная ўстанова (ВНУ) на тэрыторыі Беларусі, Гродзенская ўрачэбная акадэмія, з'явілася ў 1776 годзе. У наступным, XIX стагоддзі, адкрылася яшчэ дзве ўстановы — у Полацку і Горках. Аднак сур'ёзна гаварыць пра іх уклад у развіццё вышэйшай адукацыі ў нашым краі, у станаўленне яе традыцый сёння не прыходзіцца. Бо праіснавалі яны вельмі кароткі тэрмін.

Ужо літаральна напярэдадні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Мінску, Магілёве і Віцебску з'явіліся тры настаўніцкія інстытуты. У горадзе на Дзвіне адкрылася таксама аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Вось і ўся царская «спадчына» беларускаму народу.

Так што практычна ўсё, што маем мы сёння, даў нам сацыялізм. А маем мы ні многа ні мала — трыццаць тры вышэйшыя навучальныя ўстановы, у якіх займаецца амаль 200 тысяч студэнтаў. Гэта ў паўтара раза больш, чым было іх ва ўсёй дарэвалюцыйнай Расіі...

Узровень адукаванасці грамадства, як вядома, красамоўна адлюстроўвае агульны ўзровень яго развіцця. Савецкая Беларусь па колькасці студэнтаў ВНУ на 10 тысяч чалавек насельніцтва апярэджвае сёння многія краіны свету, у тым ліку і развітыя капіталістычныя: Англію, Францыю, Швецыю, Аўстрыю, ФРГ і іншыя.

Нашы дасягненні сталі вынікам даступнасці ў Савецкай краіне вышэйшай адукацыі для ўсіх грамадзян незалежна ад іх полу, расы, нацыянальнасці, сацыяльнага паходжання і маёмаснага становішча.

У Беларусі вядзецца навучанне практычна па ўсіх галінах ведаў: агранамічнай, архітэктурнай, гістарычнай, філалагічнай, юрыдычнай, медыцынскай, радыётэхнічнай, матэматычнай, інжынерна-будаўнічай, педагагічнай і іншых. У адпаведнасці з імі склаліся тры тыпы ВНУ: гуманітарныя, прыродазнаўчыя, тэхнічныя. У іх можна атрымаць звыш двухсот спецыяльнасцей.

Змест вышэйшай адукацыі ў БССР вызначаецца патрабаваннямі [illegible]лейшага развіцця нашага грамадства, сучасным станам нав[illegible]задачамі ўсебаковага раскрыцця асобы. Развіццё вышэйш[illegible] школы плануецца ў адпаведнасці з патрэбамі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва рэспублікі.

Менавіта недахоп спецыялістаў у некаторых галінах народнай гаспадаркі Беларусі прывёў да стварэння ў мінулай пяцігодцы ў Гомелі політэхнічнага і кааператыўнага інстытутаў. У сувязі з пастаянным павышэннем тэхнічнага ўзроўню сучаснай [illegible]мысловай і аграпрамысловай вытворчасці на яе самых скла[illegible]іх участках узнікае патрэба ў вузкапрофільных спецыялістах з вышэйшай адукацыяй. Так нараджаюцца ў ВНУ новыя спецыяльнасці. Толькі, напрыклад, у БПІ (Беларускі політэхнічны інстытут), які знаходзіцца ў Мінску, з'явіліся ў апошні час такія спецыяльнасці, як робататэхнічныя сістэмы, сістэмы аўтаматызаванага праектавання, аўтаматызацыя і комплексная механізацыя хіміка-тэхналагічных працэсаў.

Звычайна нават знешне нашы ВНУ вылучае выразнае архітэктурнае аблічча. Вучэбныя карпусы і жыллёвыя (інтэрнаты), спартыўныя залы і стадыёны буйных навучальных устаноў, такіх, напрыклад, як БДУ (Беларускі дзяржаўны універсітэт) або БПІ, утвараюць цэлыя студэнцкія гарадкі. Матэрыяльна-тэхнічнае аснашчэнне вучэбных карпусоў беларускіх інстытутаў і універсітэтаў знаходзіцца сёння на вельмі высокім узроўні. Пацвярджэнне таму — наяўнасць вылічальных цэнтраў, укамплектаваных найноўшымі ЭВМ, буйных галіновых лабараторый, такіх, напрыклад, як фізічнай оптыкі ў БДУ, аўтамабіляў, шкла і сіталаў і парашковай металургіі ў БПІ, паўправаднікоў і дыэлектрыкаў у МРТІ (Мінскі радыётэхнічны інстытут).

У вышэйшай школе нашай рэспублікі працуе сёння больш за 13 тысяч выкладчыкаў, сярод якіх каля шасцісот дактароў навук і амаль сем тысяч кандыдатаў. Ці не сведчанне гэта яе высокага аўтарытэту ў краіне і ў свеце!



**Мінскае сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 94 рыхтуе кадры для Мінскага трактарнага завода. Прадпрыемства аказвае вучылішчу дапамогу ў стварэнні навуковай базы, абсталяванні кабінетаў і майстэрняў. Вопытныя майстры вытворчасці бяруць шэфства над навучэнцамі ў час іх практыкі ў цэхах завода. Гэтыя маладыя людзі, якіх вы бачыце на здымку, хутка стануць паўнапраўнымі членамі працоўнага калектыву трактарнага завода.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

### НЕТ — «ЗВЕЗДНЫМ ВОЙНАМ» И ЯДЕРНЫМ ИСПЫТАНИЯМ

# ЖИТЬ ХОЧЕТ КАЖДЫЙ

События последних месяцев, и особенно встреча в Рейкьявике, убедительно показали, кто на деле за разрядку, за разоружение и кто прикрывает свое нежелание разоружения упражнениями в риторике.

Советский Союз предложил ряд крупных мер, которые в случае принятия положили бы начало новой — безъядерной—эпохе в жизни человечества. Уже через пять лет наполовину были бы сокращены стратегические наступательные вооружения СССР и США, а в дальнейшем это оружие вообще было бы ликвидировано. Европа освободилась бы от противостоящих друг другу ракет средней дальности, укрепился бы Договор по ПРО и были бы наконец запрещены все виды ядерных испытаний. Все это вполне могло стать реальным, но из-за стремления администрации США вести работы по программе «звездных войн» (причем не только в лабораторных условиях, но и непосредственно в космосе) договоренностей достичь не удалось.

Давно известно, что в США часто по крупным принципиальным вопросам происходит размежевание сил, и точка зрения администрации отнюдь не отражает убеждений большинства американцев. Несколько месяцев назад мне в составе советской делегации довелось побывать в США, встречаться с простыми людьми. Каково же было наше удивление всякий раз, когда мы узнавали, например, что далеко не все американцы слышали о советском моратории, хотя он длится уже больше года. А то вдруг нас спрашивали: «А если правительство США выступит с мирными предложениями, поддержит ли их Советское правительство?» Они даже не знают, что именно Советскому Союзу в последние десятилетия принадлежат *практически все важнейшие* мирные инициативы. Кстати, и после Рейкьявика администрация Рейгана выдает новые советские мирные предложения за свои собственные.

В наших беседах в США с более информированными людьми — прогрессивными конгрессменами, с интеллигенцией — рефреном звучало: «Продлите мораторий, продлите мораторий». Мы понимаем, говорили американцы, что это опасно для вашей страны, но наберитесь терпения и подождите. Идея моратория медленно, однако все же пробивает себе дорогу в США...

Правительство СССР, проявляя политическую мудрость, пошло на осознанный риск. Влияние советского моратория на ядерные взрывы сегодня уже нельзя замолчать, его значение выходит далеко за рамки лишь жеста доброй воли. Идея запрещения всех ядерных испытаний настолько проста, настолько понятна всем, что американскому правительству не оправдать отказ от него никакой словесной эквилибристикой.

Как космонавт и как ученый, я занимаюсь физикой атмосферы. Уничтожение воздушной оболочки планеты в результате ядерной войны привело бы к катастрофическим последствиям. Объективные американские ученые подтвердили наши расчеты, свидетельствующие о том, что взрыв нескольких сот, уже не говорю о тысячах, ядерных зарядов приведет к «ядерной зиме». Если такая зима наступит на Земле, человечество ее не переживет.

Некоторые американские ученые пытаются это опровергнуть, говорят не о ядерной зиме, а о ядерной осени, которая будто бы обойдется дешевле для человеческих жизней.

Конечно, можно затеять и такой спор: зима или осень?.. А что осень? Все равно не будет урожая, все равно среди многих причин гибели людей — голод. Надеются, что кто-то может уцелеть в бункерах, что космический щит не пропустит ракет. Или пропустит, но мало. Погибнет совсем немного людей, «всего» десятки миллионов. Допустим, что это так, хотя это и совсем не так. Но ведь из этих десятков миллионов тоже каждый хочет жить.

После поездки по США я хорошо понимаю, почему простые американцы, присутствовавшие на встречах с нами, говорили своим «советологам»: утверждайте, что угодно, но только не выступайте от имени американского народа.

Более трех десятилетий ведутся переговоры относительно прекращения ядерных взрывов и испытаний ядерного оружия. Определенного прогресса в ограничении ядерных вооружений удалось добиться. Однако отсутствие соглашения о полном прекращении ядерных испытаний привело ко многим отрицательным последствиям: были созданы разделяющиеся боеголовки, на порядок увеличилось количество ядерных боезарядов, появилось тактическое ядерное оружие. Сейчас разрушение имеющихся договоренностей среди прочего приведет к созданию оружия третьего поколения, в котором предпринимается попытка направленно использовать энергию ядерного взрыва. Усложнение систем оружия, вынос их в космос, конечно же, многократно повышают опасность случайного срабатывания спускового механизма ядерной войны. Гонка вооружений поднимается на качественно новый виток и связана с фантастическими расходами. Этому тупиковому направлению Советский Союз противопоставляет единственно возможную альтернативу — программу «звездного мира».

На сегодня уже свыше ста государств в той или иной степени причастны к космосу. Большое распространение получили спутники связи и метеорологии, навигации и природоведения. Советский Союз на практике доказывает свое стремление оказывать содействие в научном освоении космоса всем заинтересованным государствам. Крупная совместная работа проводится в рамках программы «Интеркосмос»: на [illegible]тских кораблях и орбитальных [illegible]циях вместе с советскими исследователями работали одиннадцать зарубежных космонавтов. В настоящее время в СССР ведется подготовка очередных международных полетов с участием космонавтов Сирии, Франции, Болгарии.

Крупнейшим нау[illegible] событием года стало завершен[illegible]роекта «Вега» — изучение Венеры и кометы Галлея. На двух советских автоматических станциях работала аппаратура девяти стран. Проект принес ценнейшие научные сведения, а на очереди уже новый проект — «Фобос», предусматривающий изучение Марса и его естественного спутника Фобоса. Две автоматические станции для этой экспедиции, как и в проекте «Вега», предоставляет Советский Союз, аппаратуру же готовят уже 12 стран и некоторые научные организации Европейского космического агентства. Советский Союз заявил о своей готовности содействовать другим государствам в создании прикладных космических систем и на коммерческой основе. Сюда включается запуск различных спутников — связных, навигационных, природоведческих, доставка на орбиту технологической аппаратуры, изготовление в космосе материалов и лекарств. Даже этот беглый перечень показывает, сколь многообразным стал нынешний научный и коммерческий космос. Огромные дополнительные силы и средства можно было бы выделить на эти направления, если бы человечеству удалось навсегда избавиться от опасностей, связанных с программой «звездных войн». Ведь сейчас даже пилотируемый полет на Марс уже не является фантастикой. Такая экспедиция, выполненная на широкой международной основе, стала бы гордостью всего человечества.

Людям свойственно мечтать, но при всем том мы должны оставаться реалистами. Очень тревожно видеть, как заходят в тупик по вине администрации США мирные инициативы СССР. Уверен, что все-таки мир будет сохранен. Но это не получится само собой, автоматически. Рейкьявик еще раз показал, что все народы, все государства должны активно действовать с тем, чтобы переломить милитаристские тенденции, действующие в США, в пользу оздоровления международной обстановки, в пользу упрочения мира.

**Георгий ГРЕЧКО,**
**летчик-космонавт СССР, дважды Герой Советского Союза, доктор физико-математических наук.**
(АПН).

## *НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*





**Москва... Это слово священно для сердца каждого русского, советского человека. Столица Древней Руси, она всегда была символом мужества, стойкости нашего народа. Отсюда Дмитрий Донской вёл свою рать на поле славы — поле Куликово. Сюда на выручку москвичам спешили когда-то полки Пожарского и Минина. Здесь «напрасно ждал Наполеон Москвы коленопреклоненной». Не покорился город и фашистским полчищам в суровые годы Великой Отечественной войны.**

**Как раз в эти дни начала декабря мы отмечаем 45-летие великого подвига советского народа—начало контрнаступления Красной Армии, в результате которого немецко-фашистские войска потерпели первое серьезное поражение во второй мировой войне. Был развеян миф о непобедимости фашистских [illegible]**

**Такой же немеркнущей славой овеян и Ленинград — колыбель социалистической революции. 900 дней сжимало его кольцо гитлеровской осады. Враг, остановленный у самых окраин, обрушил на город свыше 100 тысяч снарядов. Голод, холод, варварский огонь по жилым кварталам — ничто не сломило стойкости ленинградцев.**

**Сегодня Москва и Ленинград по праву считаются одними из самых красивых городов мира. Ежегодно их посещают миллионы туристов. И наши зарубежные соотечественники, приехав на Родину, обязательно стараются побывать в Москве и Ленинграде.**

**НА СНИМКАХ: Москва сегодня. Вид на Москву-реку, гостиницу «Украина» и Кутузовский проспект; Ленинград прекрасен во все времена года. Уголок Дворцовой площади.**

## *РЕЛИГИЯ В СССР*

# КАДРЫ ДУХОВЕНСТВА

**Священнослужителей для Русской Православной церкви готовят три духовные семинарии — в Москве (г. Загорск), Ленинграде и Одессе и две духовные академии — в Загорске и Ленинграде.**

**Ректор Московской духовной академии и семинарии епископ Дмитровский АЛЕКСАНДР рассказывает о деятельности этих учебных заведений.**

Прежде всего несколько слов об истории Московских духовных школ. Московская академия была основана три века назад. Славяно-греко-латинская академия, как ее тогда называли, готовила не только богословски образованных священнослужителей, многие из ее выпускников явились выдающимися деятелями в области светских наук (среди них — всемирно известный русский ученый Михаил Ломоносов).

Академия, переведенная в 1814 году из Москвы в Троице-Сергиеву лавру, стала крупнейшим богословским центром в православном мире. По уровню образования, получаемого в ней, по научно-богословским достижениям она не уступала лучшим богословским факультетам Запада.

Московские духовные школы сегодня — это духовная академия и духовная семинария. Учебно-воспитательной и научной деятельностью духовных школ руководит совет, возглавляемый ректором. Обучение в семинарии и академии рассчитано, как правило, на четыре года.

Предметы, изучаемые в духовных школах, можно разделить на пять основных групп: библейские дисциплины — изучение Священного Писания; богословские науки — догматическое, нравственное, основное, сравнительное богословие, патрология; церковно-практические дисциплины — пастырское богословие, литургика, гомилетика, каноническое право; история церкви; древние и новые иностранные языки. В духовных школах изучается также история СССР и Конституция СССР, в академии — логика, византология.

Учебный процесс в духовной академии по своим формам похож на учебный процесс в любой другой высшей школе: те же лекции, зачеты, экзамены. Обучение в академии завершается написанием и защитой дипломной или курсовой работы. В семинарии обучение организовано несколько иначе: кроме лекций, каждое занятие включает в себя также опрос. Для наших школ характерно особое внимание к самостоятельному выполнению учащимися письменных работ; почти по всем предметам воспитанники регулярно пишут сочинения и рефераты.

Изучение общеобразовательных дисциплин в духовных школах направлено на подготовку широко образованного интеллигентного священнослужителя. Преподавание Конституции СССР и истории Советского государства призвано способствовать патриотическому и гражданскому воспитанию будущих пастырей.

Наши воспитанники помимо учебных занятий несут клиросное послушание в храмах Троице-Сергиевой лавры. Кроме того, они составляют проповеди и произносят их перед прихожанами академического Покровского храма, поют в хоре. Учащиеся старших классов семинарии и студенты академии рукополагаются в священный сан и служат в академическом храме как священники или диаконы.

В духовных школах создана методическая комиссия, которая занимается усовершенствованием методов преподавания. Мы пришли к выводу о необходимости изменить характер опроса учащихся семинарии, чтобы активизировать их работу.

В Загорске и Одессе учатся только юноши. А вот в Ленинграде на регентском отделении есть девушки.

На сектор заочного обучения принимаются священнослужители в возрасте до 50 лет. Обучение на заочном секторе продолжается от 4 до 6 лет в семинарии и столько же в академии.

Сейчас в Московских духовных школах на очном и заочном отделениях обучается около 1 000 человек.

(АПН).

ЗНАЁМЦЕСЯ: АНСАМБЛЬ НАРОДНАЙ МУЗЫКІ «СВЯТА»

# ГРАЙ, СКРЫПАЧКА, З ЛІРАЙ У ПАРЫ



Адзін з першых сваіх канцэртаў гэты калектыў даў у сталічным Доме літаратара. Зала там невялікая, а публіка збіраецца строгая, патрабавальная: пісьменнікі, людзі мастацтва, журналісты, студэнцкая моладзь.

Усталявалася цішыня. У нейкай своеасаблівай, самабытнай, стрыманай і разам з тым нязмушанай манеры зайгралі музыканты. Мякка і задушэўна льецца мелодыя гармоніка, трывожаць гукі ліры і дуды, амаль забытых сучаснымі прафесійнымі музыкантамі інструментаў. Здаецца нават, што ты не ў сучаснай канцэртнай зале, а недзе на вясковай вечарынцы альбо на даўнейшым кірмашы. Так лёгка і арганічна ўвайшло ў душу свята.

Усе падняліся і, стоячы, віталі артыстаў. Не стрымаўся тады Генадзь Цітовіч, вядомы вучоны-фалькларыст, накіраваўся расчулены на сцэну.

«З беларускай бульбы ёсць многа страў, але ж такой стравы я ніколі не спытваў!» — сказаў ён.

Што ж сабой уяўляе гэты калектыў, якое яго творчае крэда?

У «Свяце» амаль усе артысты з кансерваторскай адукацыяй. Музыканты, выканаўцы народных песень і танцавальная пара. Так сказаць, фальклор у трох сваіх іпастасях — музычнай, танцавальнай і песеннай. Скрыпкі, цымбалы і гармонік — асноўныя інструменты ў ансамблі. Яшчэ гучаць дудачкі, дуда, жалейка, ліра, басэтля, саломка, акарына...

— Мы выконваем, — расказвае мастацкі кіраўнік «Свята» Васіль Купрыяненка, — народную музыку ў чыстым выглядзе, без перакладання і так званага «сучаснага прачытання». Аўтэнтычны фальклор, як гавораць навукоўцы.

Выкарыстоўваем найбольш старажытныя варыянты, захоўваючы арыгінальную народную манеру выканання. Скажу нават больш: мы не бяром запісы фальклору са шматлікіх зборнікаў песень. Бо ніякі запіс не можа перадаць манеру выканання, адметныя нюансы народнага музіцыравання ці спявання, малюнак танца. Таму скарыстоўваем толькі фанаграмнае гучанне. Зразумела, шмат ездзім па Беларусі самі.

Васіль Купрыяненка не навічок у фальклоры. Ён родам з Магілёўшчыны, выступаў у самадзейным магілёўскім калектыве «Вяснянка» — іграў на розных музычных інструментах, танцава[illegible] Пазней быў у «Харошках», [illegible] уласна кажучы, і нарадзі[illegible]ся ў яго мара аб стварэнні такога калектыву, як «Свята».

Вялікая работа папярэднічала стварэнню ансамбля і яго першай канцэртнай праграмы. Збор [illegible]рыялу, потым яго расшы[illegible]оўка і, нарэшце, увасабленне на сцэне.

— У працэсе работы над канцэртнай праграмай мы сутыкнуліся з нечаканымі цяжкасцямі, — дзеліцца сваімі думкамі В. Купрыяненка. — Парадокс быў у тым, што, нягледзячы на высокі прафесійны ўзровень, некаторыя нашы музыканты - акадэмісты не змаглі іграць у народнай манеры. Наогул, адзначу: прафесійны музыкант павінен быць вельмі таленавітым чалавекам, каб авалодаць прыёмамі ігры народнага музыканта-самавука.

З фанатычнай упартасцю група артыстаў-аднадумцаў рыхтавала сваю першую праграму. У яе ўвайшлі старадаўнія беларускія народныя полькі, «Вясельная кампазіцыя» і кампазіцыя «Палескі скрыпач», кадрылі, гармонікавыя найгрышы, песні «Ой, за гаем, гаем», «Чапурушачка» і многія іншыя. Акрамя рэпетыцый у В. Купрыяненкі быў яшчэ адзін клопат. Гэта пастаянныя паездкі да народнага майстра Вячаслава Пратасевіча, што жыве ў Калодзішчах, непадалёку ад Мінска, які рабіў для іх калектыву жалейку, дыятанічныя цымбалы, саломкі, кмены, дудкі.

З поспехам прайшлі першыя канцэрты «Свята». Выступленні ансамбля з цікавасцю глядзелі знаўцы фальклору, замежныя госці рэспублікі, жыхары Эстоніі, дзе нашы артысты выступілі падчас праходзячых там Дзён мастацтва і літаратуры Беларусі.

Адшумелі першыя апладысменты, зноў надышлі для «Свята» будні — рэпетыцыі, паездкі за фальклорам, пастаянныя для творчага калектыву пошукі дасканаласці.

Наперадзе ў ансамбля сустрэчы з самай шырокай аўдыторыяй гледачоў — розных узростаў і прафесій, захапленняў і схільнасцей. А гэта самы адказны экзамен.

**М. БАРТНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: ансамбль народнай музыкі «Свята».**

**Фота Я. КОКТЫША.**

# ЧАСУ НАСУПЕРАК

...Заканчваецца фільм. У глядзельнай зале загараецца святло, раздаюцца апладысменты. Вось гэтак жа гучалі яны пяцьдзесят год назад, калі беларуская кінакарціна «Шукальнікі шчасця» ўпершыню выйшла на экраны краіны. Хто старэйшы, добра памятае гэты вясёлы і ў той жа час сумны фільм. Тады, паўстагоддзя назад, карціну ўбачылі не толькі савецкія гледачы, яна дэманстравалася ў ЗША, Аўстрыі, Бельгіі, Чэхаславакіі, Францыі, іншых краінах.

А пачалося ўсё з невялікай газетнай заметкі, дзе гутарка ішла аб беднай яўрэйскай сям'і, якая пасля доўгіх блуканняў па свету набыла сваё шчасце ў Краіне Саветаў. Заметка тая трапіла на вочы маладому беларускаму драматургу Рыгору Кобецу, і ён загарэўся ідэяй напісаць на гэтым матэрыяле кінасцэнарый. Паставіць фільм узяўся таксама малады рэжысёр У. Корш-Саблін.

«Карціна праўдзіва адлюстроўвае тэму братства народаў Савецкага Саюза — адну з перамог ленінскай нацыянальнай палітыкі, — пісала 25 мая 1936 года «Правда», — не перабольшвае цяжкасці, з якімі сустрэліся яе героі, напоўнена гумарам, цеплынёй, лірызмам, вызначаецца яркімі вобразамі цэнтральных персанажаў».

...Праз трыццаць год пасля прэм'еры, у шасцідзесятыя гады, фільм зноў прайшоў па экранах краіны. І зноў крытыка адзначала, што гэтая карціна — важны этап не толькі ў творчасці яе стваральнікаў — яна з'явілася вехай у гісторыі беларускага кіно.

І вось цяпер, праз пяцьдзесят год, юбілейныя прагляды фільма адбыліся ў рэспубліканскім Доме кіно і Доме літаратара ў Мінску. Выступаючы на вечары, прысвечаным юбілею, беларускі пісьменнік Валянцін Тарас гаварыў:

— «Шукальнікі шчасця» — гэта стужка з кіно майго маленства. У трохстах кроках адсюль, ад Дома літаратара, стаіць стары будынак трамвайна-тралейбуснага дэпо. Дык вось у дворыку дэпо да вайны быў маленькі клуб. Кінабудкі не было, апарат стаяў проста ў зале, фільмы круцілі па частках, адна канчалася, і зноў запальвалася святло, пакуль мянялі каробку, зараджалі ў кінапраектар новую частку. Мы, хлапчукі з Камароўкі, паглядзелі ў гэтым клубе і «Чапаева», і «Мы з Кранштата», і «Вясёлых рабят» — фільмы, якія сталі сапраўднай школай выхавання. Там упершыню мы ўбачылі і «Шукальнікаў шчасця». Радасна, што час не пахаваў гэты фільм і ён працягвае сваё жыццё».

**Д. ФІЛІМОНАЎ.**

# ПАНЁС ЁН ЛЮДЗЯМ ПЕСЕНЬ ДАР

Мінула 80 гадоў з той пары, калі ў першым нумары першай беларускай газеты «Наша доля» пабачыў свет верш Якуба Коласа «Наш родны край», што стаў пачаткам літаратурнага шляху песня[illegible]

[illegible]й памятнай падзеі быў прысвечаны вечар, які прайшоў у Доме літаратара. Народная артыстка БССР М. Захарэвіч выканала выдатны верш. Выступіў заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа Максім Лужанін.

— Колас ішоў да жаданай волі праз арганізацыю з'езда настаўнікаў, праз астрожныя краты, праз абурэнне палескіх сялян, а галоўнае — праз свае творы, праз заклікі «Стрэльбы, хлопчыкі, [illegible]ы!» і праз наказы воінам у Айчынную вайну: «Глядзі, не пр[illegible]хніся!» І вёў упартую штодзённую барацьбу за мір, — заўважыў паэт.

Пра глыбокую народнасць творчасці песняра, пра тое, калі і як у людскую свядомасць уваходзяць Коласавы словы і вобразы, прачула гаварыў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль.

З цікавасцю слухалі прысутныя выступленне заслужанага работніка культуры БССР, сына Якуба Коласа Данілы Міцкевіча. Ён прыгадаў асобныя моманты з багатага жыццяпісу бацькі, што сведчаць пра высакародства і дабрыню песняровай душы.

На вечары артыстамі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа былі паказаны сцэны са спектакля «Сымон-музыка».

**І. КУРБЕКА.**

*Ф. СКАРЫНА Ў ВОДГУКАХ НАШЫХ СУЧАСНІКАЎ*

# ГАВОРЫЦЬ З НАМІ ПРАЗ СТАГОДДЗІ

**(Заканчэнне. Пачатак у № 49).**

Аднак ва ўсходніх славян час фарміравання нацый яшчэ не наступіў — тут адбывалася кансалідацыя феадальных народнасцей (рускай, украінскай, беларускай) у кантэксце даўнейшых і на пачатку XVI стагоддзя развітых далей і ўзбагачаных руска-ўкраінска-беларускіх (альбо, калі хочаце, беларуска-руска-ўкраінскіх) сувязей. Для трох народнасцей было характэрна захаванне памяці аб супольнасці іх паходжання і традыцыях Кіеўскай Русі. Характэрна і тое, што этнанім «рускі» для кожнай народнасці быў як бы сваім...

Для прапаганды спадчыны Скарыны мне здаецца важным выдаць у рускім перакладзе ўсе тэксты, якія можна лічыць яго аўтарскімі — прадмовы, пасляслоўі і г.д. Чаму я кажу аб рускім перакладзе? Мова Скарыны шмат у чым устарэла і з цяжкасцю будзе ўспрымацца сучасным чытачом-неспецыялістам. Значыць, маецца на ўвазе пераклад на сучасную рускую мову. Але, канечне, як гэта цяпер звычайна робяць, адначасна трэба надрукаваць арыгінальныя скарынінскія тэксты на той «рускай», г. зн. старабеларускай мове, на якой ён іх пісаў. Вопыт падобнага роду маецца.

**А. МЫЛЬНІКАЎ,**
**доктар гістарычных навук,**
**г. Ленінград.**

***

Цяжка сказаць, калі я ўпершыню пачуў імя Скарына... Мажліва было гэта яшчэ ў школьную пару. Але ўжо напэўна я пачуў гэтае прозвішча тады, калі вывучаў у Маскоўскім паліграфічным інстытуце курс гісторыі кнігі.

Я грунтоўна вывучаў усе, што захаваліся, экземпляры выданняў Скарыны ў нашай краіне і ў ПНР. Гэта дазволіла скласці зводны каталог скарынінскіх выданняў, надрукаваны ў 1978 годзе.

На маю думку, няма падстаў для вылучэння асобных аспектаў дзейнасці Скарыны. Для развіцця духоўнай культуры беларусаў, ды і ўсіх усходнеславянскіх народаў істотнае значэнне мелі і выдавецкая, і літаратурная, і навуковая, і мастацка - выяўленчая дзейнасць вялікага беларускага асветніка. Скарына—адзін з самых вялікіх усходнеславянскіх асветнікаў, значэнне дзейнасці якога ў пэўнай ступені яшчэ не ацанілі. Патрэбна манаграфія аб дзейнасці Скарыны ў кантэксце эпохі ва ўсім багацці сувязей і аспектаў. Такой манаграфіі ў нас яшчэ няма, хаця кніг аб Скарыне нібы выдадзена нямала. Патрэбен зборнік актавых матэрыялаў і іншых крыніц для вывучэння жыцця і дзейнасці Скарыны. Каб скласці такі зборнік, неабходны мэтанакіраваныя пошукі матэрыялу аб Скарыне ў заходнееўрапейскіх архівах.

**Я. НЕМІРОЎСКІ,**
**доктар гістарычных навук,**
**г. Масква.**

***

Упершыню аб Скарыне пачуў у Кіеўскім універсітэце на лекцыях прафесара Сяргея Маслава ў 1949 ці 1950 годзе. Але больш падрабязна апавядаў мне пра Францішка Скарыну мой сябар-беларус, вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Гэта было звычайнае тлумачэнне, хто гэты чалавек, чыё прозвішча згадваў прафесар побач з кракаўскім выдаўцом Швайпольтам Фіолем.

Арыгінальных выданняў Скарыны ў руках не трымаў, не бачыў, калі не лічыць яго «Прадмоў і пасляслоўяў», выдадзеных у Мінску ў 1969 годзе. Трапляліся мне розныя хрэстаматыі, а арыгінал аднае часткі Скарынінскай Біблії бачыў у Музеі старажытнай кнігі і друкарства ў Кіеве ў 1986 годзе.

Хочацца падкрэсліць асаблівасць Францішка Скарыны, яго рознабаковую дзейнасць, што было ўласціва дзеячам Адраджэння. Без ваганняў назваў бы Скарыну для свайго часу «першым розумам і сумленнем Беларусі», менавіта дзякуючы яго маральна-этычным ідэям дабра, праўды, годнасці і самаўдасканальвання чалавека.

Францішак Скарына, як мне здаецца, быў першай праявай неабарачальнага працэсу інтэлектуальнага далучэння Беларусі да вялікага «тэктанічнага» зруху эпохі Адраджэння. Прасякнутая ідэаламі гуманізму дзейнасць Скарыны арганічна спалучыла ў сабе два моманты: уласна беларускі (тут пачатак самасвядомасці беларусаў!) і універсальна чалавечы.

На маю думку, трэба выдаць некалькі розных варыянтаў, прысвечаных Скарыне, ад факсімільнай копіі яго Бібліі, па-навуковаму пракаменціраванай самім Скарынай, да папулярных, для масавага чытача кніг. Вельмі дарэчы энцыклапедычны слоўнік «Скарына і яго час», аб падрыхтоўцы якога я даведаўся падчас нядаўняй сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Бракуе добрых гісторыка-біяграфічных аповесцей, манаграфій, якія варта было б адразу перакладаць на важнейшыя замежныя мовы дзеля папулярызацыі жыцця і творчасці гэтага дзіўнага чалавека, без якога нельга ўявіць сабе шляхоў нацыянальнага самавыяўлення беларусаў.

**Фларыян НЯЎВАЖНЫ,**
**пісьменнік, г. Варшава, ПНР.**

***

Упершыню пра Ф. Скарыну пачуў у 1928 годзе, калі вучыўся ў Полацкім педагагічным тэхнікуме. Была ў той час змястоўная кніга вядомага пісьменніка, дасведчанага ў галіне беларусазнаўства, Максіма Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры». З гэтай кнігі студэнты чэрпалі цікавыя звесткі аб культурным мінулым свайго народа. У ёй сціпла расказвалася і пра беларускага першадрукара, які яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя выдаваў кнігі

*ВЫ ХАЦЕЛІ СУСТРЭЦЦА*

# «ВАШ ВЫХАД, МАРЫЯ ЗАХАРЭВІЧ!»



**Да пачатку вечара ў мінскім Доме літаратара было яшчэ хвілін пятнаццаць. Патроху запаўнялася зала, рабочыя ўстанаўлівалі юпітэры, у грымёрнай пераапраналіся артысты.**

**А народная артыстка БССР Марыя Захарэвіч, якая павінна была першай выйсці на сцэну — выступіць з чытаннем коласаўскіх вершаў, стаілася за кулісамі. Застыла, углядаючыся ў ярка асветленую сцэну, як бы адасобіўшыся ад усіх людзей, што былі вакол яе, ад усіх творчых і грамадскіх клопатаў і праблем сённяшняга дня. Яна хвалявалася.**

**— Ваш выхад, Марыя Георгіеўна! — раздаўся шэпт вядучага.**

**Жанчына лёгка пайшла насустрач зале. Сціплая і нейкая велічная. Загаварыла са слухачамі словамі песняра:**

**Край наш бедны, край наш родны!**
**Лес, балоты і пясок...**
**Чуць дзе крыху луг прыгодны...**
**Хвойнік, мох ды верасок...**

**І былі ў іх боль і пакута, грамадзянская страснасць, пяшчотная любоў і надзея.**

**На вышэйшым парыве пачуцця словы верша раптам сталі песняй. Высока-высока ўзляцела мелодыя, пачутая ёю некалі ў сябе на радзіме на Мядзельшчыне.**

**Са сцэны, як багіня з нябёсаў на зямлю, пад апладысменты спусцілася артыстка. Бліснулі на хвіліну ясе зеленавата-шэрыя загадкавыя вочы. На твары ледзь прыкметная стома. Не самы ўдалы момант для гутаркі...**

*— Марыя Георгіеўна, вы працуеце амаль трыццаць гадоў у купалаўскім тэатры. Вас ведае і любіць публіка. Прызнаннем высокіх дасягненняў у тэатральным мастацтве з'явілася нядаўняя ўзнагарода — ордэн Дружбы народаў. Прафесія вызначыла ваш лёс. Аднак што было галоўным момантам у выбары вясковай дзяўчынай будучай прафесіі?*

— У дзяцінстве я ніколі не бачыла сапраўднага тэатра, артыстаў. Хіба што любіла слухаць сваіх вясковых спявачак. Між іншым, усе мае цёткі, сёстры — ад прыроды вельмі таленавітыя людзі. І голасам, і слыхам, і памяццю іх бог не абдзяліў.

Аднак ніхто з іх нават і параўнацца не можа з маёй маці. Усё, што ёсць паэтычнага, добрага ў маёй душы, — гэта ад яе. Яна надзвычай таленавіты чалавек. У свае немаладыя гады так спявае народныя песні, рамансы — заслухаешся...

І яшчэ я моцна любіла ў дзяцінстве вершы. З канцэртамі, якія мы, вучні, арганізоўвалі, хадзілі, бывала, за некалькі кіламетраў у суседнія вёскі. Зімой у валёнках, захутаныя ў хустку... Было найвялікшай радасцю выступаць перад землякамі ў клубе. Словам, нада мною ўладарыла паэзія. А марыла я стаць выкладчыцай літаратуры — «сеяць разумнае, добрае, вечнае». Але наш школьны настаўнік, які ведаў пра мае «артыстычныя здольнасці», усё ж параіў пасля заканчэння школы паспрабаваць шчасця на тэатральнай ніве. Шчасце мне ўсміхнулася. І я стала студэнткай Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

*— І ніколі не пашкадавалі, што сталі артысткай, а не настаўніцай?*

— Па сутнасці нашы прафесіі вельмі падобныя. Ад настаўніка падрастаючы чалавек даведваецца пра навакольны свет, пра заканамернасць розных з'яў у прыродзе. Місія тэатра ў станаўленні чалавека, яго духоўным выхаванні не менш важная. Тэатр, як і наогул мастацтва, узвышае чалавека, ачышчае, выхоўвае.

*— Раскажыце пра першае выступленне на купалаўскай сцэне. Што, наогул, тады адбывалася ў душы юнай артысткі?*

— О! Такое не забываецца. Была я тады яшчэ студэнткай чацвёртага курса інстытута. Мне другі раз у жыцці пашанцавала: запрасілі выканаць галоўную ролю ў спектаклі па п'есе Івана Мележа «Пакуль мы маладыя». Зразумела, шчасце маё было бясконцым: у тэатры я магла бачыць славутых беларускіх акцёраў, размаўляць з імі, рэпеціраваць на той жа сцэне, што і яны. Гэта натхняла. І вось прэм'ера. Усё, як у сне: кветкі, віншаванні, апладысменты. Іван Мележ падарыў мне сваю кнігу з аўтографам. А Канстанцін Саннікаў, кіраўнік курса, рэжысёр, у дзень прэм'еры ўручыў мне фотакартку з надпісам «Марыйка! Не супакойвайся!» Яго словы пажадання, прынамсі, сталі дэвізам на ўсё жыццё.

**Марыйка, Марыя, Марыя Георгіеўна... Сцэнічная біяграфія М. Захарэвіч шчасліва пачалася ў праслаўленым купалаўскім тэатры, яе благаславілі на здзяйсненні ў мастацтве вядомыя дзеячы нацыянальнай сцэны і літаратуры. Здавалася б, кар'ера, поспех, прызнанне ўжо назаўсёды забяспечаны.**

**Маладая артыстка многа іграе сваіх сучасніц — мілых, абаяльных і сімпатычных дзяўчат. Неяк незаўважна пачынае складвацца яе амплуа «ружовай дзяўчыны», якое, саслужыўшы сваю нядобрую службу, робіць яе «запасным іграком у камандзе». Гэта быў крытычны момант у творчай біяграфіі артысткі.**

**Ні яна, ні тым больш яе калегі не чакалі, што рэжысёр рызыкне даручыць Захарэвіч... вялікую і складаную ролю Лізы Хрэнавай у п'есе В. Розава «Перад вячэрай». Па сутнасці гэта было выпрабаваннем і яе акцёрскіх здольнасцей, і характару, і цвёрдасці, і прынцыповасці. Так у творчым лёсе М. Захарэвіч адбыўся круты пералом. Пазней актрысай былі створаны на купалаўскай сцэне цудоўныя вобразы жанчын — Ганны Чарнушкі ў «Людзях на балоце», Зосі Савіч у «Сэрцы на далоні», Камісара ў «Аптымістычнай трагедыі», Луізы Брайант у «Праўду! Нічога, акрамя праўды!!!» і многія-многія іншыя вобразы ў кіно, тэлевізійных пастаноўках.**

*— Скажыце, Марыя Георгіеўна, якія характары імпануюць вам?*

— Безумоўна, мне бліжэй характары моцныя, неадназначныя. Пачалавечы блізкія жанчыны, стваральніцы па духу, якія могуць абараніць сваю годнасць, актыўна ўздзельнічаюць у жыцці. І разам з тым духоўна багатыя, шчодрыя сэрцам, з паэтычнай душой і вечным імкненнем да шчасця.

*— А як вы звычайна працуеце над роляй?*

— Наогул па-рознаму. Але спачатку я павінна адчуць яе інтуітыўна: мая яна ці не. А потым ідзе працэс распрацоўкі характара. Скажам, каб стварыць той ці іншы вобраз, я «пражываю» біяграфію гэтага чалавека. Для акцёрскай «загрузкі» — ёсць у нас такі тэрмін — неабходны шлейф жыцця героя. Сваю гераіню, нават з непрыемнымі, агіднымі рысамі, я не імкнуся зрабіць адназначна «дрэнай». Хочацца разабрацца, паказаць, што менавіта ў жыцці зрабіла чалавека такім. Я люблю цяжкія рэпетыцыі, ролі, якія не даюцца з першага штурму, над якімі трэба працаваць і працаваць, скарыстоўваючы і акцёрскі, і жыццёвы вопыт.

**Ёсць заканамернасць у тым, што рэжысёры запрашаюць Марыю Захарэвіч у тыя фільмы і перадачы, дзе трэба стварыць яркі народны характар простай вясковай жанчыны. Уласная біяграфія актрысы, яе нялёгкі жаночы лёс, добрае веданне жыцця свайго народа даюць магчымасць зрабіць гэта праўдзіва і пераканаўча.**

**Іх хату ў Навасёлках спалілі фашысты. І Марыйка яшчэ дзяўчом зведала, што такое чалавечая жорсткасць і дабрыня. Сям'ю дзяўчынкі прытулілі і дапамаглі выжыць простыя і мужныя людзі — іх аднавяскоўцы. Зведала падлеткам сялянскую цяжкую працу, змагла ацаніць жыццёвую стойкасць і працавітасць бацькоў і суседзяў, іх вясёлую песенную душу. Ды і сама Марыя Захарэвіч — «кроў ад крыві» свайго народа: працавітая, жыццястойкая, мужная, таленавітая. Не толькі ўзлёты, але і балючыя падзенні былі ў яе творчым лёсе. Яны толькі мацавалі характар.**

**Сёння Марыя Захарэвіч — сталы майстар, са сваёй адметнай творчай індывідуальнасцю, са сваім месцам у беларускім нацыянальным мастацтве. Прызнанне і павагу да яе як чалавека і актрысы выказаў калектыў тэатра, калі камуністы абралі М. Захарэвіч сакратаром партыйнай арганізацыі і накіравалі сваім дэлегатам на XXVII з'езд партыі.**

*— Пра што марыцца, што хвалюе, што не дае супакоіцца вядомай артыстцы цяпер?*

— Мне б хацелася сыграць ролю сваёй сучасніцы ў сур'ёзнай і глыбокай п'есе. Сыграць так, каб крануць за жывое, каб бліснулі слёзы на чыёй-небудзь шчацэ... Хочацца, каб склаўся акцёрскі лёс у майго сына Андрэя, які цяпер працуе ў Рускім тэатры ў Мінску, каб знайшоў ён сваю тэму ў мастацтве. Хочацца, каб паспяхова скончыла школу дачка і выбрала ўласны шлях.

Жыццё не стаіць на месцы. І таму трэба спяшацца жыць, каб паспець як мага больш зрабіць карысных спраў.

**Апошнія словы Марыя Георгіеўна дагаварвала ўжо на хаду. Яна закруціла на шыі цёплы шалік, накінула моднае паліто, і неўзабаве я пачула стук абцасікаў па лесвіцы. Яе чакалі сябры, дзеці, тэатр.**

Гутарку вяла
Таццяна АНТОНАВА.

---

для простага народа. Вядома, значэнне скарынінскіх заслуг у тым узросце ўсведамлялася не ў поўную меру, а яго ідэя пашырыць асвету ў родным краі пры дапамозе кнігі была зразумелай і назаўсёды засталася ў памяці.

Больш поўнае ўяўленне аб жыццёвым шляху і асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны засталося пасля азнаямлення з матэрыяламі юбілейнага зборніка «Чатырохсотгоддзе беларускага друку. 1525—1925» (Мінск, 1926). Тут характарызавалася скарынінская эпоха, асвятлялася культурнае жыццё тагачаснай Беларусі, разглядаліся асаблівасці мовы выданняў Скарыны, характарызаваліся гравюры і застаўкі, якімі першадрукар аздабляў свае кнігі. Усё гэта пакінула незабыўнае ўражанне. З асаблівым інтарэсам успрымалася тое, што сам гэты высокаадукаваны чалавек быў родам з блізкага нам Полацка і што за навукай ён хадзіў у далёкія замежныя краіны.

З арыгінальнымі выданнямі Скарыны пазнаёміўся ў 1936 годзе, будучы студэнтам філалагічнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Памятаецца, у аддзеле старадрукаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна захоўвалася 7 ці 8 скарынінскіх кніг, якія лічыліся найвялікшай каштоўнасцю бібліятэкі; яны прыцягвалі да сябе ўвагу і захаплялі дасканаласцю друкарскага майстэрства, своеасаблівасцю шрыфтоў, багаццем і прыгажосцю ілюстрацый.

Удумваючыся ў пытанне ўплыву спадчыны Скарыны, пераконваешся ў прынцыпова важнай ролі кнігадрукавання. Яно з'явілася магутным фактарам уздыму ўсяго інтэлектуальнага жыцця ў краіне, пазбавіла царкву манаполіі на кнігу, зрабіла кнігу крыніцай асветы і духоўнага ўзбагачэння, нарэшце, адкрыла для славянскага свету яшчэ адзін славянскі народ — беларусаў з іх мовай, самабытным фальклорам і ўласным этнічным абліччам.

**М. СУДНІК,**
**член-карэспандэнт АН БССР,**
**г. Мінск.**

***

Упершыню даведаўся пра Ф. Скарыну, гасцюючы ў майго сябра ў Беларусі, на Гродзеншчыне. У яго хаце праглядаў кнігу-альбом аб Скарыне беларускага выдання і нейкую польскую кніжачку, дзе мімаходзь згадвалася і пра беларускага першадрукара. Пазней прачытаў артыкул У. Салаухіна ў «Науке и жизни» аб кнігадрукаванні, — там адзначаліся і заслугі Скарыны як першадрукара ўсходніх славян.

У скарынінскія часы кніга на роднай мове садзейнічала фарміраванню нацыянальна-патрыятычнай свядомасці шырокіх пластоў насельніцтва Беларусі.

Вывучэнне культурна-духоўнага набытку Ф. Скарыны — справа гонару беларускіх вучоных. Яны павінны рашыць, як гэта лепш зрабіць.

**У. ПЛЯСКАЧ,**
**кандыдат тэхнічных навук,**
**г. Запарожжа.**

***

З ахвотай адгукаюся на ваша запрашэнне адказаць на анкету, што прысвечана ролі Францішка Скарыны ў адраджэнні беларускай літаратуры.

Не памятаю дакладна, але здаецца, што яшчэ ў школе пазнаёміўся з ім упершыню. Мая настаўніца беларускай мовы была выхаванкай Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. А, магчыма, ад свайго настаўніка гісторыі Мікалая Крука, які выкладаў нам гісторыю СССР. Памятаю, што ў 1953 годзе, калі святкавалася далучэнне Украіны да Расіі, я сам рабіў даклад па яго даручэнню на падставе матэрыялаў, што далёка выходзілі за межы школьнай праграмы. У тым жа годзе мы праходзілі, зразумела, і гісторыю XVI стагоддзя.

Скарына быў найбольш буйной і шматграннай фігурай эпохі Адраджэння на землях усіх славянскіх народаў. Не толькі медык, біёлаг і друкар, але філосаф і мастак. Цалкам неадназначны яго пераклад Бібліі на гутарковую мову. Гэта не толькі велізарны ўклад у развіццё беларускай літаратурнай мовы XVI стагоддзя (за што немцы, напрыклад, лічаць Лютэра нацыянальным героем), але больш складаная і глыбокая праца ў параўнанні з тым жа нямецкім ці польскім перакладам, паколькі Скарына карыстаўся адначасна старaславянскім варыянтам. Думаю, што гэты пераклад аказаў вялікі ўплыў на уніяцкую Біблію і на сам пераклад літургіі на беларускую мову ў часы уніі. Гэта ў сваю чаргу спрыяла пашырэнню пісьменнасці.

Неабходна грунтоўная манаграфія, старонак так на 1 000, дзе разглядаліся б усе бакі скарынінскай спадчыны. Неабходны жыва напісаныя папулярныя выданні. Неабходны, нарэшце, мастацкія творы — гістарычны раман, кіно, помнік у Мінску. Толькі на больш высокім мастацкім і навукова-пазнавальным узроўні, чым тое, што ёсць цяпер. Неабходны і спецыяльныя працы па недаследаваных пытаннях скарыніяны. «Напісанае застаецца», але ж яго трэба і прачытаць.

**Ю. ХАДЫКА,**
**доктар фізіка-матэматычных навук, г. Мінск.**

***

Такім чынам, людзі ідуць да Скарыны і разыходзяцца ад Скарыны, узбагачаныя думкай і прыкладам вялікага патрыёта - асветніка. Прыкладам таго, як найлепей служыць Радзіме, шанаваць і памнажаць духоўныя скарбы народа. Як чалавеку сцвярджаць на зямлі адвечны ідэал чалавечы: дабро, прыязнасць, справядлівасць.

**Аляксей КАЎКО.**

---

## ДА ЗНАМЯНАЛЬНАЙ ПАДЗЕІ

У рэспубліцы праходзяць мерапрыемствы, прысвечаныя 40-годдзю ЮНЕСКО. Да гэтай знамянальнай даты падрыхтавалася і выдавецтва «Навука і тэхніка», якое выпусціла брашуру Л. Языковіч «Дзейнасць Беларускай ССР у ЮНЕСКО».

Аўтар прасочвае, як на працягу больш чым трыццаці гадоў наша рэспубліка прыкладае намаганні для павышэння прэстыжу і значэння ЮНЕСКО ў галіне міжнароднага супрацоўніцтва, ажыццяўляе канкрэтныя мерапрыемствы па правядзенню ў жыццё праграмы гэтай міжнароднай арганізацыі, імкнучыся прыцягнуць да яе праблем шырокую грамадскасць.

Пра культурны абмен паміж народамі расказваецца ў раздзеле «Паглыбленне міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне культуры». З яго бачна, як рэспубліка прымае ўдзел у рабоце канферэнцый, нарад, сустрэч ЮНЕСКО, іншых мерапрыемствах, прысвечаных надзённым праблемам інтэрнацыянальных сувязей розных культур. Расказваецца і пра публікацыі беларускіх аўтараў на старонках выданняў ЮНЕСКО.

СПАДЧЫНА

# НАД РАКОЙ АРЭСАЙ



Няма на Беларусі такога кутка, сяла, вёскі, чыя гісторыя не была б у нечым адметнай, не зацікавіла б асаблівасцю традыцый, рыс побыту, мясцовымі паданнямі. Аднаму з такіх куткоў Янка Купала прысвяціў паэму «Над ракой Арэсай»: «Былі тут калісьці багнішчы-балоты...»

Маляўнічы край! Зялёныя лугі. Нібы хвалі, разліваецца сінь васількоў, рамонкі рассыпаны белым дыванам. Хвалюе вецер золата збажыны, а навокал лясы, лясы...

У пачатку стагоддзя даследчык І. Сербаў звярнуў увагу на асаблівасць гаворкі тутэйшых жыхароў — саканне і назваў іх беларусамі-сакунамі. Ён падрабязна вывучыў побыт жыхароў вёсак Ляўкі, Жыцін, Дрычын, Дражна, Залужжа. Зрабіў фотаздымкі вяскоўцаў, іх жылых і гаспадарчых пабудоў. У яго кніжцы ўпамінаецца і вёска Падарэссе, што зараз знаходзіцца ў Старадарожскім раёне.

У Падарэссе вядзе некалькі шляхоў, і ўсе праз лясы. Можна звярнуць са Слуцкай шашы ў Шышчыцах і ехаць праз Жылін Брод і Шчыткавічы ці збочыць са старога Кацярынінскага тракту Масква — Варшава ля старадаўняй паштовай станцыі ў Пасекавай Горцы, што на ўсход ад Слуцка, і ехаць праз Навасёлкі. Праз колькі кіламетраў лес расступаецца, адкрываючы вачам даліну вярхоўя ракі Арэсы. Ля падножжа гары серабрыцца гонтавымі і шыфернымі стрэхамі вялікая вёска. Шмат вуліц. Яны шчыльна забудаваны, у асобных месцах суседнія хаты ледзь не дакранаюцца стрэхамі. Далёка цягнуцца вузкія палосы бульбяніку. Планіроўка вёскі на першы погляд можа здацца заблытанай. Вуліцы робяць павароты, паміж імі ўкліньваюцца палі, іншыя зусім аддалены ледзь не на кіламетр. Але варта ўважліва прыгледзецца, і раптам заўважаеш, што роўныя квадраты палеткаў, раскінутых паміж вуліц, — месцы колішняй багны, а самі вуліцы — вузкія пясчаныя грэблі, што языкамі ўразаліся ў балота. Вось чаму тут паселішчы сустракаюцца праз 6—7 кіламетраў, значна радзей, чым, напрыклад, на той жа Случчыне.

Сляды мінулых часоў у абліччы вёскі можна заўважыць не адразу, бо ў цэнтры, на ўзгорку — двухпавярховая школа, ледзь не лепшая ў раёне, помнік воінам і вяскоўцам, загінуўшым у мінулай вайне, прыгожы клуб, вялікі магазін, некалькі добраўпарадкаваных шматкватэрных дамоў, за вёскай сучасны жывёлагадоўчы комплекс з с[illegible]нымі вежамі, усюды асфаль[illegible] Але варта завесці гутарку з вяскоўцамі (падарэшукамі, як іх завуць у наваколлі), як адразу звяртаеш увагу на сакавітую палескую гаворку з адзначаным некалі Сербавым са[illegible]ем. Гаворка тэмпераментн[illegible] эмацыянальная.

Зараз вуліцы Падарэсся носяць назвы, у якіх адлюстраваны падзеі нашага часу. Але тут добра памятаюць і даўнейшыя назвы вуліц- канцоў. Калі ўважліва ўслухацца ў іх, то можна заўважыць, што яны характарызуюць і ландшафтныя асаблівасці пэўнага месца, і адлюстроўваюць сувязь вёскі з суседнімі паселішчамі, адносіны пэўнага «канца» да асноўнай часткі, некаторыя паходзяць ад старадаўняга асабістага імя часткі вясковай абшчыны. Вось, напрыклад, паселішча на пясчанай выспе завецца Каменкай, частка вёскі за ракой — Зарэчча, цесны рад хат паміж двума калектарамі — былымі багнамі, дзе квакалі жабы, — Жабін кончык. Дзве вуліцы на водшыбе (калісьці яны былі за вялікім балотам) зваліся адпаведна Валачаеўка і Прычэпілаўка. Назва Казланскі канец і Зыкавец паходзяць ад старадаўняга ўласнага імя групы сваякоў. Уяўляе цікавасць і шэраг назваў навакольных мясцін, у прыватнасці, лясных урочышчаў: іх тут завуць гаямі. Яны вельмі багатыя на грыбы і ягады. У жніўні і верасні падарэшукі сем'ямі ідуць на ўвесь дзень у лес. Надвячоркам над стрэхамі хат уюцца дымкі — паляцца печы, рыхтуюцца сушыць белыя грыбы. У гэты час у вёсцы працуе, як правіла, некалькі прыёмных пунктаў. Існуе і традыцыйная мясцовая мера — плецены бабруйскі кош. Назвы гаёў, пэўнага месца паўтараюць назвы суседніх вёсак. Навасёлкаўскае — у бок Навасёлак, Залужчына — у бок Залужжа, Дражэнскае — у бок вёскі Дражна, Шчыткаўскае каля Шчыткавіч, Кайкаўскае, Ляўкоўскае. Урочышча на гары завуць Пяшчанкі, а прыгожы гай за лугам — Залюбанькай.

У падарэшукоў цікавыя прозвішчы. Але ў вёсцы жывуць вялікія групы людзей з аднолькавымі прозвішчамі. Гэта з'ява ў навуцы носіць назву патранімії і бярэ пачатак ад часоў радавога ладу. Вядома, што на Палессі амаль да XVI стагоддзя (да часоў Валочнай памеры) сяліліся і апрацоўвалі надзелы зямлі (ласкуты, пруты) дворышчамі, якія складаліся з некалькіх сядзіб сваякоў. Гэта было сямейна-радавое ўладанне, прымітыўная форма кааперацыі, якую ўтваралі сем'і бацькі з дзецьмі ці сем'і братоў. Прозвішча сваякоў станавілася і назвай дворышча. З цягам часу тут маглі пасяліцца і іншыя сем'і, але старая назва захоўвалася. Да сваякоў далучаліся, напрыклад, зяцьпрымак альбо, калі не хапала рабочых рук, запрашалі памагатых (патружнікаў). Нейкі час апошнія захоўвалі адасобленасць, а пры працяглым сауладанні зямлёй, супрацоўніцтве аб'ядноўваліся з гаспадарамі. У выніку росту сем'яў і далучэння патружнікаў дворышчы маглі разрастацца да значных памераў, звыш 20 дамоў. Зразумела, што пры гэтым родныя сувязі слабелі. Некалькі размешчаных непадалёку дворышчаў пастулова аб'ядноўваліся тэрытарыяльна і ўтваралі сяло. Вось чаму групы людзей з аднолькавымі прозвішчамі згуртаваны ў розных канцах паселішча (Шаламіды, Майлычкі, Колтуны, Свірыды).

Адчуваюцца ў абліччы вёскі і сляды Валочнай памеры: лінейная, пагонная забудова вуз[illegible] выцягнутых двароў. За [illegible]ой абшчыннага палетка некалі быў засценак Карыцішча, а зараз невялічкая вёска. Акуратны, пафарбаваны штакетны плот паабапал вуліц дзе-нідзе чаргуецца з традыцыйным у мінулым частаколам. Многа [illegible]гожых дамоў з ліштвамі, [illegible]ымі шчытамі і закрылінамі. Тут працавалі вядомыя ў акрузе разьбяры Майлычкі...

Зараз у вёсцы больш за тысячу жыхароў. Многа моладзі, таму справы ў калгасе ідуць нядрэнна. Кіпіць праца на калектарах колішняга балота. Купала пісаў:

**«Мар'іна балота,**
**Буйнае прыволле!**
**Людзей сёння корміш,**
**Даеш корм жывёле...»**

Ідуць гады, але не страчваецца самабытнасць гэтага краю. Тут заўсёды жылі добрыя працаўнікі, сёння іх нашчадкі ўпэўнена ствараюць новае аблічча роднай зямлі.

**Аляксандр ЛАКАТКО,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**НА ЗДЫМКУ:** вёска Падарэссе.
**Фота аўтара.**

СПОРТ

У выключна напружанай барацьбе праходзіла Сусветная шахматная алімпіяда. Перамога ў апошняй сустрэчы з лікам 4:0 над камандай Польшчы дазволіла зборнай СССР заняць першае месца. Другое — у англічан. Трэцімі фінішавалі амерыканцы.

Трэнерам чэмпіёнаў на гэтай алімпіядзе быў гросмайстар з Беларусі Віктар Купрэйчык.

Не перастае здзіўляць высокімі вынікамі канькабежац з Мінска Ігар Жалязоўскі. На першым этапе розыгрышу Кубка свету, які праходзіў у Заходнім Берліне, ён перамог на ўсіх чатырох дыстанцыях спрынтарскага мнагабор'я.

У сталіцы Беларусі гасціла гандбольная каманда юніёраў ГДР. Яна правяла дзве таварыскія сустрэчы са зборнай СССР. У яе складзе добра выступіў мінчанін Міхаіл Якімовіч. Гульні завяршыліся перамогай каманды Савецкага Саюза з лікам 24:19 і 23:20.

На розыгрышы гандбольнага турніру «Кубак Карпат» бронзавых узнагарод дамагліся беларускія спартсмены — Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Георгій Свірыдзенка, Аляксандр Тучкін і Аляксандр Маліноўскі.



**У мінскім парку імя Горкага на крытым катку працуе спецклас па фігурнаму катанню. Сюды прыходзяць тыя, хто хоча навучыцца трымацца на блакітным лёдзе, як вядучыя нашы фігурысты. А пакуль у іх — трэніроўкі, агульнафізічная падрыхтоўка, заняткі харэаграфіяй і музыкай, урокі ў агульнаадукацыйнай школе.**

**НА ЗДЫМКУ:** на трэніроўцы Каця **ДАЙНЕКА** са сваім трэнерам **Н. ІВАНОВАЙ.**

**Фота А. ДАВІДОВІЧА.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

## «ПРАЦОЎНЫ НАРОД, БУДУЙ ПАВЕТРАНЫ ФЛОТ»

У пачатку сакавіка 1923 года ў нашай краіне па ініцыятыве У. І. Леніна было створана першае добраахвотнае «Таварыства сяброў паветранага флоту» (ТСПФ). Па ўсёй краіне пачалі стварацца пярвічныя арганізацыі новага таварыства, у тым ліку і ў Беларусі. Гэта арганізацыя павінна была садзейнічаць развіццю самалётабудавання ў краіне, распаўсюджванню ведаў аб авіяцыі сярод насельніцтва.

Зведваючы вялікія фінансавыя цяжкасці — трэба было паднімаць разбураную вайной і інтэрвенцыяй сельскую гаспадарку і прамысловасць, — урад маладой рэспублікі Саветаў не мог аказаць фінансавую дапамогу новаму таварыству, работа якога патрабавала значных сродкаў. Таму ТСПФ з 1923 года пачало выпускаць дабрачынныя маркі, паштоўкі, значкі. 14 красавіка 1923 года на пасяджэнні прэзідыума таварыства былі зацверджаны ўзоры першых дабрачынных марак.

У пачатку 1924 года з'явіліся ў продажы маркі пятага выпуску ТСПФ. Іх намінал быў абазначаны ў залатой валюце. Надпіс на гэтых марках быў зроблены на чатырох мовах — рускай, украінскай, беларускай і армянскай.

У тыя далёкія гераічныя гады насельніцтва краіны з вялікім энтузіязмам адгукалася на заклікі збіраць сродкі ў дапамогу авіяцыі. Таварыства сяброў паветранага флоту выставіла лозунг: «Працоўны народ, будуй паветраны флот!» і арганізавала збор сродкаў сярод працоўных краіны. За кароткі час былі распаўсюджаны ўсе тыражы дабрачынных марак, вялікая колькасць значкоў, паштовак. За першыя дзевяць месяцаў было сабрана 3 мільёны рублёў золатам. Краіна атрымала дзесяткі самалётаў, планёраў, некалькі аэрадромаў. У Беларусі ў пачатку сакавіка 1923 года быў кінуты кліч сабраць сродкі на пабудову аэраплана «Савецкая Беларусь».

На бягучы рахунак № 282 у Дзяржаўны банк паступіла многа сродкаў, частка з іх сабрана БТСПФ. Сярод тых, хто ўносіў грошы, былі Я. Купала, Я. Колас, К. Крапіва, З. Бядуля і многія іншыя пісьменнікі, партыйныя, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы рэспублікі. Да чэрвеня 1923 года на рахунак № 282 паступіла 40 789 рублёў. А ў ліпені 1923 года ТСПФ СССР перадало Беларускаму таварыству аэраплан «Савецкая Беларусь». На гэтым самалёце 15 ліпеня 1923 года лётчык Серычаў здзейсніў першы, далёкі па тым часе, пералёт Мінск—Смаленск. Самалёт «Савецкая Беларусь» вырашана было перадаць Чырвонай Арміі. Перадача адбылася на аэрадроме ў Смаленску ў Дзень авіяцыі — 25 ліпеня 1923 года. Газета «Звязда» ад 27 ліпеня таго ж года паведаміла, як быў перададзены Чырвонай Арміі самалёт, на крылах якога вялікімі літарамі было напісана «Савецкая Беларусь».

**Леў КОЛАСАЎ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1886